ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 32 [2611]
ПЯТНІЦА
11
жніўня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## НА ДЗЯРЖАЎНЫЯ ПРЭМІІ БССР



Сцэна са спектакля «Амністыя». У ролі Бажашуткавай — народная артыстка БССР З. Браварская, у ролі Добрых — народны артыст СССР Л. Рахленка, у ролі Кічнайлы — заслужаны артыст БССР П. Кармунін.

**Сёння «Літаратура і мастацтва» пачынае абмеркаванне твораў, вылучаных на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР. Запрашаем да ўдзелу ў ім усіх пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, кінематаграфістаў, бібліятэкараў, чытачоў. Скажыце, таварышы, свае слова пра тое, што вам падабаецца і чаму падтрымліваеце вы названыя кандыдатуры або не згаджаецеся з прапановамі творчых саюзаў і ўстаноў.**

Сёння матэрыялы абмеркавання—на стар. 4—5.



Графічны ліст А. Кашкурэвіча на тэму «Адвечнай песні» Янкі Купалы.



Кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ю. Семяняка.



Кадр з кінафільма «Паланез Агінскага».

50 год утварэння СССР

# СВЕТЛЫ ГОРАД СВЕТЛАГОРСК



## РАСКАЗ ПЕРШАГА САКРАТАРА СВЕТЛАГОРСКАГА РК КПБ Ул. К. ЛЕЎЧЫКА

— Калі адзінаццаць гадоў таму ля Шацілак пачалі будаваць новы горад, доўга не маглі прыдумаць яму імя. Прапаноўвалі назваць горад Новымі Шацілкамі, відаць, па прыкладзе Наваполацка. Наваполацк — гучыць, а Новыя Шацілкі... Цяжка сказаць, каму першаму прыйшла ідэя назваць горад Светлагорскам. Але яна ўсім спадабалася. У нас жа знаходзіцца Васілевіцкая ДРЭС. Электрастанцыя, электрычнасць, святло... Вось і стаў наш горад Светлагорскам. Прыгожа, праўда? І, галоўнае, вельмі адпавядае свайму зместу. Светлагорск, светлы горад! Ён сапраўды такі. Прайдзіцеся па яго шырокіх праспектах, асабліва вечарам, калі яны заліты морам агню. Кажу гэта не толькі з пачуцця патрыятызму (зусім зразумелага), кажу аб'ектыўна, да нас прыязджае шмат гасцей з розных куткоў краіны, з-за мяжы, і ўсім наш горад вельмі падабаецца.

**Светлагорск уражвае не толькі гмахамі высокапавярховых дамоў, урэшце, гэта прыкмета ўсіх нашых вялікіх і малых гарадоў.**

**Першае, што кідаецца ў вочы — ідзеш, як па вялікім парку. Нідзе не бачыў я столькі зеляніны.**

**Пасля нашай гутаркі, Уладзімір Канстанцінавіч павёз мяне паглядзець, як будуецца трэці і чацвёрты мікраёны. Яны ўзводзяцца проста ў лесе. Не на месцы лесу, а, падкрэсліваю, у лесе. І я пазайздросціў будучым жыхарам гэтых мікрараёнаў. Выйшаў, разумееце, на балкон і дыхай лясным паветрам.**

**— Мы прапанавалі будаўнікам, — гаворыць сакратар, — беражліва ставіцца да кожнага дрэва. Кантралюем. Не ўсім, праўда, падабаецца, бо, бывае, што і пад'язныя шляхі, камунікацыі даводзіцца пракладваць не па прамой, але мы стаім на сваім — паваліць дрэва можна за мінуту, а расціць яго трэба гадамі.**

Светлагорцы ганарацца тым, што іх горад стаў родным домам для прадстаўнікоў 26 нацыянальнасцей, якія прыехалі сюды з Сібіры і Украіны, Літвы і Казахстана, Малдавіі і Грузіі, з многіх іншых рэспублік і аўтаномных абласцей Саюза.

У свой час яны дапамагалі ўзводзіць наш завод штучнага валакна, які, дарэчы, быў аб'яўлены ўсесаюзнай ударнай будоўляй, шукаць нафту, якой багата Светлагоршчына. Цяпер дапамагаюць выпускаць высакаякасную прадукцыю. Дазволю сабе прывесці такую лічбу — аб'ём рэалізацыі прамысловай прадукцыі летась склаў 150 мільёнаў рублёў.

Наш Светлагорск становіцца адным з буйнейшых прамысловых цэнтраў рэспублікі. Будуецца цэлюлозна-кардонны камбінат, які будзе буйнейшым у Еўропе. Расшыраецца завод жалезабетонных вырабаў і канструкцый для прадпрыемстваў энергетыкі, прадукцыя якога вядома ўжо не толькі ў Беларусі, домабудаўнічы камбінат.

Госці нашы адразу заўважаюць, што ў Светлагорску шмат моладзі. Сапраўды, светлагорцы ў асноўным народ малады. У нас больш дзяўчат, чым хлопцаў. Так што, вядомая песня, дзе гаворыцца, што «на каждые десять девчонок по статистике девять ребят» — пра нас. Жарты жартамі, а такая дыспрапорцыя складае пэўную праблему і мы думаем над яе вырашэннем. Выхад, відаць, у будаўніцтве прадпрыемства, дзе б ужывалася пераважна мужчынская праца.

Не хапае ў нас пакуль што і жытла, хаця будуем мы многа. Дастаткова сказаць, што жыллёвы фонд горада — гэта тое, што пабудавана за апошнія гады — складае 456 тысяч квадратных метраў карыснай плошчы (у Светлагорску 50 тысяч насельніцтва). Сёлета да гэтай лічбы дадасца яшчэ 18 тысяч квадратных метраў жытла, да канца пяцігодкі — каля 147 тысяч метраў.

Зразумела — там, дзе шмат моладзі, шмат і вяселляў, шмат маладых сем'яў. У нас пабудавана некалькі дамоў (на Украінскім праспекце) для маласямейных.

Чытачам «Літаратуры і мастацтва» цікава будзе даведацца пра духоўнае, культурнае жыццё светлагорцаў, пра тое, як яны праводзяць свой вольны час. У светлагорску 6 сярэдніх школ. Да канца пяцігодкі будуць пабудаваны яшчэ тры школы. Ёсць у нас індустрыяльны тэхнікум і прафтэхвучылішча.

З культурных устаноў у нас два кінатэатры, Дом культуры энергетыкаў. Для горада ён ужо цеснаваты і зараз узводзіцца Палац культуры хімікаў з глядзельнай залай на 800 месц, са спартыўнай і актавай заламі, пакоямі для гуртковай работы. Палац мяркуем здаць у эксплуатацыю ў гэтым годзе да гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

На афішах у Светлагорску вы можаце ўбачыць імёны артыстаў, вядомых усёй краіне. Нядаўна ў нас гастралявалі, напрыклад, эстрадныя спявачкі Мая Крысталінская і Вольга Варанец, часты госць у Светлагорску Чарнігаўскі ўкраінскі драматычны тэатр імя Т. Шаўчэнкі.

Светлагорцы сябруюць з кнігай. У нас дзве гарадскія і раённая бібліятэкі, ёсць бібліятэкі на ўсіх прадпрыемствах.

Недалёкі дзень, калі ў горадзе можна будзе праводзіць вялікія спартыўныя спаборніцтвы. Будуецца вялікі спартыўны комплекс з плавальным басейнам і гімнастычнай залай. Будаўніцтва яго будзе таксама закончана ў гэтым годзе.



**Біяграфія камсамолкі Валянціны Папок падобная на біяграфіі соцень яе аднагодак. Скончыла прафтэхвучылішча, працуе прадзільшчыцай на заводзе штучнага валакна, завочна займаецца ў індустрыяльным тэхнікуме. Валянціна — ударніца камуністычнай працы.**

Запланавана пабудаваць гарадскі стадыён на 10 тысяч гледачоў.

**Нашу гутарку з Уладзімірам Канстанцінавічам часта перапыняюць тэлефонныя званкі. Звоняць з прадпрыемстваў, звоняць з калгасаў. Па імгненнай рэакцыі, па лаканічных адказах сакратара заўважаеш, што ён у курсе кожнай справы. І яшчэ адчуваеш, якім напружаным жыццём жыве горад і раён.**

**Сам Леўчык — невысокі, жвавы, круталобы чалавек, як мне расказвалі, мае тры дыпломы. У свой час скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум, пасля якога працаваў калгасным аграномам, потым скончыў Мінскі інстытут народнай гаспадаркі па профілі прамысловай эканомікі. Быў начальнікам планавага аддзела будоўлі, пасля — другім сакратаром Салігорскага райкома КПБ. З гэтай пасады яго паслалі вучыцца ў Вышэйшую партыйную школу ў Маскву. Пасля вяртання працаваў інструктарам ЦК КПБ па Гомельскай вобласці і вось зараз тут. Да ўсяго гэтага застаецца дадаць, што Уладзіміру Канстанцінавічу трыццаць сем...**

Некалькі слоў пра нашу вёску. Калгас ці саўгас не менш складаны арганізм, чым любы завод. Упусці, не заўваж якой-небудзь дробязі і гэта табе адгукнецца вялікімі непрыемнасцямі.

Яшчэ гадоў восем-дзесяць таму больш сямі-васьмі цэнтнераў збожжа, ды 70—80 цэнтнераў бульбы з гектара не збіралі. Летась па раёне гэтыя паказчыкі склалі адпаведна 16,9 і 124 цэнтнеры.

Зрух і не малы. Па-іншаму сталі гаспадарыць, па-іншаму абыходзіцца з зямлёй. Сёлета, напрыклад, хлебаробы ўнеслі пад яравы палетак 4,5 тысячы тон аміячнай вады, ды на кожны гектар яшчэ далі па 19 тон арганічных угнаенняў. Падкармілі ўсе азімыя.

Або ўзяць насенне. Усе збожжавыя ў нас упершыню на ўсёй плошчы пасеяны перспектыўнымі гатункамі першага і другога класаў.

Вялікія намаганні мы прыкладаем да развіцця жывёлагадоўлі. Тут вельмі важна знайсці, як кажуць, пункт апоры, г. зн. тое, што пры мінімальных затратах дало б максімальную аддачу.

Разам з кіраўнікамі гаспадарк мы шмат лічылі, падсумоўвалі, узважвалі і прыйшлі да вываду — нам выгадна развіваць свінагадоўлю.

Прыступілі да рэканструкцыі свінаферм. Гэта дасць магчымасць к канцу пяцігодкі адкормліваць на кожнай з іх да 2,5 тысячы галоў свіней. Па прыкладзе рагачоўскіх жывёлаводаў пачнем вырошчваць і качак. Таксама вельмі перспектыўная справа.

Адным словам, і ў горадзе і ў вёсцы (між іншым наш горад, нашы рабочыя аказваюць вяскоўцам вялікую шэфскую дапамогу тэхнікай, і людзьмі) ідзе напружаная работа па ажыццяўленні рашэнняў XXIV з'езда КПСС, пяцігадовага плана.

Наперадзе ў нас, цяпер ужо зусім блізкае свята 50-годдзя ўтварэння СССР. Мне застаецца пажадаць усім чытачам «Літаратуры і мастацтва» сустрэць яго творчымі поспехамі на карысць нашай вялікай Радзімы.



Вось ён, сённяшні Светлагорск. Праспект імя 50-годдзя Кастрычніка.

Фота А. ХАМІЦЭВІЧА.

**М. ЗАМСКІ,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**

# СВЯТА ДРУЖБЫ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

Цёпла, гасцінна сустракалі маладзечанцы гасцей з Краснадарскага краю, Украіны, Літвы, Эстоніі, Арменіі, Азербайджана, Малдавіі. Народныя ансамблі песні і танца сямі братніх рэспублік удзельнічалі ў свяце, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР. Каля шасцісот артыстаў-аматараў прывезлі на Міншчыну свае песні, іскрыстыя танцы, непаўторнай прыгажосці нацыянальныя касцюмы. У свяце дружбы ўдзельнічалі таксама аб'яднаны танцавальны калектыў Вілейскага раёна ў складзе 300 чалавек і танцавальны ансамбль Івянецкага дома культуры Валожынскага раёна.

Свята пачалося ўрачыстым маршам-парадам удзельнікаў. На брацкую магілу воінаў-партызанаў, што загінулі ў час вайны, былі ўскладзены кветкі. Артысты-аматары прачыталі вершы савецкіх паэтаў пра гераізм і мужнасць савецкіх воінаў.

Потым усе прыйшлі на стадыён. Узнімаюцца сцягі пятнаццаці саюзных рэспублік. Гучыць Гімн Савецкага Саюза.

Гасцей віталі старшыня Маладзечанскага гарвыканкома Ф. Рыбачонак і народная артыстка СССР Л. Александроўская.

Адзін за адным выступілі народны ансамбль песні і танца «Таполік» калгаса «Запаветы Ільіча» Краснадарскага краю, народны ансамбль танца Бакінскага гарадскога дома культуры Азербайджанскай ССР, Падволчынскі народны ансамбль песні і танца Тарнопальскай вобласці Украінскай ССР, народны ансамбль песні і танца Раздонскага раённага дома культуры Армянскай ССР, Паняважскі народны ансамбль песні і танца Літоўскай ССР, народны ансамбль танца Вільяндзінскага раённага дома культуры Эстонскай ССР, народны ансамбль танца Кагульскага гарадскога дома культуры Малдаўскай ССР.

Канцэртная праграма свята закончылася «Лявоніхай», якую з захапленнем выканалі і гаспадары і госці. Затым усе разам праспявалі песню І. Дунаеўскага «Широка страна моя родная».

Госці пабывалі ў калгасах і саўгасах Маладзечаншчыны, дзе выступілі з канцэртамі.

**Д. КУДЗЕЛЬКА.**

# ДЗЯРЖАЎНЫЯ ПРЭМІІ БССР

## АБМЯРКОЎВАЕМ ВЫЛУЧАНЫЯ ТВОРЫ

ЛІТАРАТУРА

# «ТВАРЫЦЬ ДАБРО...»

### ПРА КНІГУ СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА «ПАЭМА ДАРОГ»

З РАДАСЦЮ я даведаўся, што на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР 1972 года вылучана кніга Сяргея Грахоўскага «Паэма дарог». Чым яна вабіць і радуе? Глыбокім зместам? Багатым духоўным светам? Безумоўна. Але сказаць так—значыць сказаць яшчэ не ўсё, бо змястоўных кніг у нас багата, аднак не кожную чытаеш з інтарэсам. Важна тут другое—з чаго складаецца змест і што ён набывае ў паэтычным пераламленні.

Пройдзеныя дарогі для пакалення, да якога належыць Сяргей Грахоўскі, — гэта перш за ўсё суровыя выпрабаванні. І пра іх многія вершы «Паэмы дарог», асабліва —аднайменная паэма. Напружанасць трывожнага часу пераканаўча перадаюць унутрана напружаныя, энергічныя радкі паэта: «Рыпелі мыліцы, паблісквалі пагоны...», «Не зажыла, а запяклася рана»...

І ніколі не будзе балюча за той шлях, за той адрэзак часу, які пройдзены сумленна:

**Нам пройдзеных дарог не<br>перамераць<br>І нанава нікому не прайсці.<br>Я іх прайшоў і навучыўся верыць<br>У праўду, найвышэйшую ў жыцці.**

З верай у праўду непарыўна звязана жаданне ствараць, рабіць высакародную справу, сцвярджаць дабро. Грамадзянская пазіцыя паэта акрэсленая і мэтанакіраваная:

**Калі прыходзіць неспадзеўна<br>сталасць,<br>Каб не блукаць паміж дабром і<br>злом,<br>Прайдзі выпрабаванне на<br>трываласць,<br>На непахіснасць, на разрыў, на<br>злом.**

**. . . . . . . . . . . . .**

**Адкінь нікчэмны мітуслівы клопат<br>І не вагайся: «Быць або не быць».<br>У спадчыну ж табе дастаўся вопыт<br>Тварыць дабро, як дыхаць і любіць.**

Такім чынам, сутнасць чалавечага жыцця вызначае яго неадольная цяга тварыць дабро, быць «не добранькім, а ў дабраце нястомным».

«Паэма дарог»—надзвычай цэласная кніга. Змешчаную ў ёй паэму хораша дапаўняюць вершы. Арганічна ўвайшла ў кнігу ленінская тэма, вырашаная арыгінальна, па-майстэрску.

**Калі ў сяброў здараліся няўдачы,<br>Знаходзілі яго ў дажджы і ў стынь,<br>Каб растлумачыў цяжкія задачы,<br>Праверыў пераклады на латынь.**

Так пачынаецца адзін з вершаў пра Леніна—«У кожным сэрцы...» Прыходзілі сябры, і стаяла пры гэтым такая гамана, «што часам з брата жартавала Оля і называла хлопцаў «хадакі».

Вобраз «хадакоў» становіцца скразным, ён развіваецца, увесь час пашыраецца ў маштабе, набывае новы сэнс: «Ішлі да маладога адваката ў зрэбніках сівыя хадакі», «і да яго у Ланжумо і Цюрых ішлі з усёй Еўропы хадакі». «І днём і ноччу у бяссонны Смольны ішлі з усёй Расіі хадакі». А потым быў суровы «завейны студзень», «калі ў жалобе да Калоннай залы ішла і не канчалася чарга». Для нас і для ўсіх сумленных людзей на планеце Ленін—гэта не толькі дарагі чалавек. Неўміручымі сталі ідэі правадыра, яго геній:

**Адна чарга не кончыцца ніколі,<br>І будуць у наступныя вякі<br>Да ленінскае мудрасці і волі<br>Ісці з усёй планеты хадакі.**

І як-бы пацвярджэнне сказанаму ў вершы мы знаходзім у паэме, у яе невялічкім раздзеле «Споведзь»: «І прага ўпершыню паспавядацца мяне вяла ў бясконцую чаргу». І тут, «у самай доўгай, праведнай чарзе» мы сустракаем і шматлікіх герояў паэмы — былога камісара і настаўніцу. Гэта— не выпадковасць. Паэт падкрэслівае, што зварот да Ільіча, да яго мудрасці патрэбны ўсім людзям, каб стаць мужней, сумленней.

Чым больш учытваешся ў паэзію Сяргея Грахоўскага, тым больш адчуваеш, што з табой гутарыць чалавек, які прагне аддаць сваё сэрца людзям, перадаць ім сваю ўмудронасць вопытам. І гэтая шчодрасць ідзе ад жадання, каб людзі ўмелі цаніць жыццё, яго радасці:

**Мы смех і ранішні прамень<br>Цаніць адразу не умеем<br>І што шчаслівы сёння дзень —<br>Назаўтра толькі разумеем.**

Вялікай эмацыянальнай сілай напоўнена ў кнізе і лірыка кахання. Узорам паэзіі такога плана мне здаецца верш «Позняя радасць».

Хочацца адзначыць строгасць і патрабавальнасць паэта да сябе. У вершах Грахоўскага няма нічога выпадковага, невыразнага. Калі, напрыклад, у пачатку верша «Яблыкі» гаворыцца аб тым, што на Беларусі яблыкі паспелі і па яе дарогах коцяцца вяселлі, дык у канцы верша «... маладыя, як Адам і Ева, кусаюць спелы яблык удваіх». Запамінаюцца простыя і трапныя паэтычныя вобразы: «І хвойка прабіваецца з зярняці, пушыстая, як рожкі ласяняці» («Кліча вясна»), «Я дубею і сівею аж да самае душы» («Завея»), «Маленькая, у сонечнай кароне аўсяных пераспелых валасоў» («Паэма дарог»). Звяртае на сябе ўвагу і ўнутраная суладнасць радка, алітэрацыя: «Па нашай будзе біла голым голлем», «У каляінах колы калыхалі», «Ліпнёвае сонца шугае, завялі на ліпах лісты».

Хочацца цытаваць і цытаваць. Але колькі не цытуй, кнігу не перакажаш—яе трэба чытаць. Бясспрэчна адно: «Паэма дарог» — удача паэта. Яго дарогі ідуць ад сэрца і таму не могуць не дайсці да сэрца.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА КНІГУ СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА «ПАЭМА ДАРОГ»*

**А. ГРАЧАНІКАЎ.** З дарог далёкіх і блізкіх. «Літаратура і мастацтва», 1971 г., 15 студзеня.

**А. ЗВОНАК.** Паэзія без фальшу і прыкрас. «Полымя», 1971, № 1.

**М. ХВЕДАРОВІЧ.** Прайдзі выпрабаванне на трываласць. «Мінская праўда», 1971 г., 6 ліпеня.

МУЗЫКА

# УСЛАЎЛЕННЕ РАДЗІМЫ

### ПЕСНІ ЗАСЛУЖАНАГА ДЗЕЯЧА МАСТАЦТВАЎ БССР Ю. СЕМЯНЯКІ

У ПЕСНЯХ услаўляць Радзіму, менавіта ў песнях — самым дэмакратычным, зразумелым і любімым у слухачоў жанры — ці не найбольш высакародны і адказны абавязак кампазітара! Аляксей Суркоў неяк вельмі трапна сказаў, што песня нараджаецца тады, калі да людзей нясецца патрэбнае палымянае слова на крылах хвалюючай мелодыі. І такімі ўяўляюцца лепшыя песенныя творы, што напісаны Ю. Семянякам.

Зразумела, можна гаварыць пра яго і як пра аўтара ў многім цікавай опернай і кантатнай музыкі; ёсць у Ю. Семянякі здабыткі і ў іншых жанрах. Але нідзе не гучыць так пераканаўча і натхнёна ягоная самабытная аўтарская «нота», як у песнях. Імклівыя, напорыстыя ці задуменна-лірычныя, жартоўныя ці эпічныя, сольныя ці ансамблевыя, — яны, гэтыя песні, не пісаліся без аўтарскай усхваляванасці, без патрэбы, неабходнасці сказаць людзям нешта сваё, падзяліцца сваім адчуваннем падзей і з'яў навакольнага жыцця. І адчуванне гэтае заўсёды шчырае; свет душы кампазітара нічым не «задрапіраваны»; у мелодыях яго песень гэты свет раскрыты кожнаму, хто іх пачуў. Таму, відаць, песеннай творчасці Ю. Семянякі належыць «пальма першынства» ў рэпертуары мастацкай самадзейнасці і артыстаў оперы ці філармоніі. Таму, відаць, гучаць яго песні далёка за межамі Беларусі, выдаюцца вялікімі тыражамі ў братніх рэспубліках, захапляюць там слухачоў, якія нават не ведаюць нашай мовы.

Часам задаюць пытанне пра вытокі музычнай мовы песень Ю. Семянякі, пра іх сувязі з нашым нацыянальным фальклорам. Памылкай было б лічыць, што такія сувязі раскрываюцца толькі ў цытатным выкарыстанні здабыткаў народнай песнятворчасці, што толькі апора на традыцыйную сялянскую песню вызначае народнасць кампазітарскай мовы, а гарадскі фальклор — гэта нешта другараднае, і што, наогул, з цягам часу, разуменне — «сваё», «народнае» — не ўзбагачаецца за кошт здабыткаў культур братніх народаў. На маю думку, народнасць песень Ю. Семянякі вызначаецца перш за ўсё тым, што іх змест раскрывае шматбаковасць жыцця, імкненняў і пачуццяў савецкага народа, а інтанацыйны склад адпавядае багаццю жывой беларускай мовы, асаблівасцям яе фанетыкі, структуры.

Калі ж настойліва шукаць яшчэ больш патаённыя карэнні музычнай мовы кампазітара, дык яна з'яўляецца цікавым сплавам традыцыйнага—больш гарадскога, чым сялянскага—фальклору з чула падслуханымі ў народзе сучаснымі інтанацыямі і рытмамі.

Больш ста песень стварыў Ю. Семяняка для салістаў, вакальных ансамбляў, хораў. Няма, бадай, у жыцці нашай рэспублікі, усёй краіны такой хвалюючай падзеі, юбілейнай даты, праявы працоўнага ці абарончага гераізму, якія б не знайшлі адлюстравання ў гэтай музыцы. Але з выключнай сілай сваю сыноўю любоў да Радзімы, веру ў святло ленінскай праўды кампазітар выказаў у тых пяці песнях, што праўленне Саюза кампазітараў Беларусі вылучыла на атрыманне Ю. Семянякам Дзяржаўнай прэміі Беларускай ССР за 1972 год у галіне музыкі. Песні гэтыя — «Беларусь — мая песня», «Расцвітай, Беларусь», «Ленінская праўда расцвітае», «Люблю цябе, Белая Русь» і «Славім мы свой край любімы». І няма такога кутка ў нашай рэспубліцы, дзе б яны не гучалі: ці то ў акапэльным хоры, або ў выкананні пад баян салістамі, дуэтамі, квартэтамі... Вось творы, дзе аўтар сапраўды ад імя свайго народа выказаў самае запаветнае ў нашым жыцці, раскрыў неадрыўнасць гэтага запаветнага ад думак, імкненняў, хваляванняў кожнага савецкага чалавека. І напісаны песні з той мудрай дасканаласцю, калі мелодыя і словы нясуцца ад сэрца, нібы яны нарадзіліся непасрэдна тут, у цябе, і ты не можаш не падзяліцца радасцю жыць і ствараць у імя свайго народа, краіны, у імя ўрачыстасці справы вялікага Леніна.

Такія песні нельга не назваць вартымі высокай узнагароды.

**І. НІСНЕВІЧ.**

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА ПЕСЕННУЮ ТВОРЧАСЦЬ ЮРЫЯ СЕМЯНЯКІ*

**Г. ЗАГАРОДНІ.** Песенная лірыка Ю. Семянякі. «ЛІМ», 1957, 18 снежня.

**В. БАРХАТАВА.** Пясняр жыцця. «Мінская праўда», 1962, 25 лютага.

**А. БАЧЫЛА.** Музыка Юрыя Семянякі. «ЛІМ», 1967, 17 кастрычніка.

**Г. ЛЕБЕДЗЕВА.** Напевы зямлі роднай. «Вячэрні Мінск», 1968, 10 кастрычніка.

ВЫЯЎЛЕНЧАЕ МАСТАЦТВА

# ДЗЕ КАНЧАЕЦЦА ЎЛАДА СЛОВА...

### ПРА СЕРЫІ ГРАФІЧНЫХ ЛІСТОЎ А. КАШКУРЭВІЧА ПА КУПАЛАЎСКІХ МАТЫВАХ І «ПАРТЫЗАНЫ»

Я ГЛЫБОКА пераканана, што твор сапраўднага мастака пераказаць словамі немагчыма. Справа ў тым, што сапраўдны мастак і пачынае тварыць тады, калі пачуцці, якія яго агарнулі, слову непадуладныя.

Пра гэта нельга не думаць, прыгадваючы работы Арлена Кашкурэвіча.

Вось ён сустракаецца з тым невымерным светам, якім з'яўляецца паэзія Янкі Купалы. Задумваецца: як, якімі выяўленчымі сродкамі выказаць гэты свет. І — не ідзе шляхам простага ілюстравання, графічнага «пераказу» таго, што цудоўна выказаў словам паэт. Зусім не. Арлен Кашкурэвіч імкнецца стварыць графічны эквівалент паэтычнаму слову. Ён шукае для свайго графічнага ліста на тэмы паэта тое, што жыве ў паэтычным творы як бы між радкоў — яго жывую паэтычную душу... Так успрымаю я графічныя лісты Арлена Кашкурэвіча на тэмы твораў Янкі Купалы.

Гэтым лістам папярэднічала вялікая работа мастака ў кніжнай графіцы. Афармленыя ім выданні твораў Янкі Купалы — непаўторны свет. З яго нарадзіліся і тыя лісты, што жывуць самастойным жыццём, нагадваючы нам матывы Купалавай паэзіі.

Ёсць у гэтых лістах арганічная сувязь з графічнай серыяй Арлена Кашкурэвіча «Партызаны». Яна прасочваецца перш за ўсё ў спосабах асэнсавання мастаком жыццёвага матэрыялу. А таксама ў самой выяўленчай мове.

Асабліва кранае мяне ліст, прысвечаны партызанскім мацяркам. Немагчыма без хвалявання глядзець, як іх натруджаныя, спрацаваныя рукі набіваюць кулямі кулямётныя стужкі і дыскі. Скупымі, лаканічнымі сродкамі афорту мастак надзяліў жанчын глыбокімі псіхалагічнымі характарыстыкамі. І колькі пра іх сказана! Не толькі пра тое, што рукі маці, якія павінны калыхаць немаўля, рабіць хатнюю жаночую справу, вымушаны рыхтаваць зброю... Не, тут не толькі пра гэта. Тут, калі хочаце, і водгулле Купалавага заклiку: «Біце ворагаў паганых, каб не ўскрэслі век яны!» Тут не пацыфізм, а ідэя высакароднага мацярынскага гневу супраць нелюдзяў, што замахнуліся на Радзіму, на чалавека, на ўсё, у імя чаго гэтыя маці жывуць...

Можа быць, спецыялістам у галіне мастацтва графікі і падасца, што не ўсе лісты серыі выкананы на аднолькавым узроўні. Але наўрад ці памылюся, сказаўшы, што ў кожным з іх — высокая графічная культура. А галоўнае — высокая культура творчага мыслення. Бо гэта мысліць сапраўдны мастак. Грамадзянін, які гаворыць мне, гледачу, вельмі істотнае пра нашае жыццё, пра барацьбу нашага народа, пра паэзію жыцця нашага народа. Паэзію высакародную. Такую, як Купалава слова.

**Ф. ЛАРЫНА,**<br>**інжынер.**

ТЭАТР

# З САТЫРЫЧНЫМ ЗАПАЛАМ

## НАРОДНАЯ АРТЫСТКА БССР З. БРАВАРСКАЯ Ў СПЕКТАКЛІ АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ Я. КУПАЛЫ «АМНІСТЫЯ»

КАМЕДЫЯ напісана М. Матукоўскім і пастаўлена заслужаным дзеячом мастацтваў РСФСР Ц. Кандрашовым па законах сатырычнага абвастрэння і канфлікту, і дзеючых у ім асоб. Зразумела, уся гісторыя выкрыцця Грышы Салавейчыка і яго абаронцаў-добраахвотнікаў, якой яна выглядае на сцэне ў купалаўцаў, ні на хвіліну не выклікае сумнення ў жыццёвай верагоднасці. Больш таго, адчуваеш, што М. Матукоўскі ведае дакладны адрас сваіх прататыпаў.

**Сярод абаронцаў Салавейчыка, хулігана і хабарніка, ёсць два тыпы — Рагнеда Бажашуткава і Іван Кічкайла. Выканаўцы гэтых роляў З. Браварская і П. Карначін вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР разам з драматургам і рэжысёрам. Спынюся на тым, што робіць у спектаклі З. Браварская, сталы майстар, які ўмее спалучаць раскрыццё ўнутранага жыцця вобраза са знешнім пластычным малюнкам, звычайна ў яе вельмі выразным і прадуманым.**

...Галоўны канструктар фабрыкі дзіцячых цацак. Чалавек даволі прымітыўнага мыслення ў галіне сваёй прафесіі, трошку дэмагог, трошку прыстасаванец. Жанчына адзінокая, з лёсам не вельмі светлым у асабістым жыцці. Многае з гэтых амаль анкетных звестак актрыса робіць матывамі паводзін Рагнеды Бажашуткавай. Мабыць, не толькі пажаданнем калектыву, які не хоча валаводзіцца з чалавекам, заплямленым судзімасцю, кіруюць гэтай жанчынай, калі яна літаральна кідаецца ў «бой за Грышу». Хлопец ён з сябе відны, мужчына. Не, З. Браварская не дазваляе сваёй гераіні «захапіцца» ім, але... Кінула адзін позірк на Грышу Рагнеда, падхапіла яго рэпліку, засмяялася жарту... Сумуе жанчына! Да таго ж такія, як Салавейчык, — гэта не тое, што канкурэнтка Бажашуткавай Дрозд: ён мірыцца з любым «парадкам» на фабрыцы, абы яму жылося з асалодай!.. Таму ў нечым яны — саюзнікі. Браць ад жыцця як мага больш, а аддаваць людзям «па магчымасцях»...

Калі чытаеш п'есу М. Матукоўскага, бачыш не ўсе з гэтых матываў у паводзінах Бажашуткавай. Гэта тэатр, рэжысёр і артыстка па-творчы «прасвятлілі» вобраз, знайшлі яго ўнутраныя спружыны.

**У літаратурным тэксце п'есы дадзены «прыгожыя», але дэмагагічныя дэкларацыі гераіні:**

**— Грыша Салавейчык — член нашага калектыву. І калі ён зрабіў нешта недазволенае, то ў першую чаргу вінаваты не ён, а мы з вамі. Так, так, мы! Прагледзелі свайго таварыша! Гэта трэба сказаць сёння чэсна і прама...**

**— Жыве чалавек бабылём, жонка яго пакінула. У чалавека вялікая маральная траўма. Трэба, каб ён адчуў цяпло, чалавечую ласку, зразумеў, што вакол яго добрыя, сардэчныя людзі. Чалавек чалавеку друг, таварыш, брат...**

**«Праграмныя» выказванні Рагнеды не выклікаюць пярэчанняў. Але іх нельга адносіць да Рыгора Салавейчыка, сцвярджае артыстка. Яго маральны кодэкс і паводзіны ў вытворчым калектыве патрабуюць не ласкі, а пакарання. Яна тонка, дасціпна высмейвае ружовы, пяшчотны лібералізм Бажашуткавай, намаганні даць амністыю злачынствам героя.**

Сакавітымі, сатырычнымі фарбамі, гнеўна, востра крытыкуе Браварская гнілую пазіцыю галоўнага канструктара ў сцэне «таварыскага суда» — яе хітрыкі ў абароне Салавейчыка. Больш стрымана, з іранічнай усмешкай падае артыстка вялікі дыялог з дырэктарам фабрыкі Добрых, які слаба супраціўляецца дэмагогіі Рагнеды і ўрэшце выконвае яе бязглуздыя патрабаванні.

У размове з Ізабэлай Дрозд Бажашуткава рэзкая, грубая, непрымірымая. Тут змянілася танальнасць вобраза.

Вобраз пластычны, рухі артысткі музычныя, дыкцыя дакладная. Голас пераканальна перадае ўсе эмацыянальныя адценні, напружанне думкі гераіні. У дыялогах прыкметна добрае адчуванне артысткай партнёраў. Выканаўца яскрава «чытае» не толькі змест тэксту, але і «падтэкст», пашыраючы выяўленчыя магчымасці ролі.

Апошні дыялог з Ізабэлай Дрозд трапна завяршае партрэт Бажашуткавай.

«Жыццё маё не атрымалася, — гаворыць Рагнеда. — Кар'еры не атрымалася... Я шчыра хацела дапамагчы Салавейчыку. Не толькі яму... Спадзявалася—пашанцуе з Салавейчыкам, заўважаць мяне... Зробяць дырэктарам фабрыкі пасля таго, як Якаў Фаміч пойдзе на пенсію. Усё не атрымалася. Абсалютна ўсё...»

**У голасе, ва ўсім abліччы Рагнеды — Браварскай з'яўляюцца драматычныя інтанацыі і штосьці сапраўды шчырае. Гісторыя з Салавейчыкам, мабыць, нават гэтай жанчыне дала ўрок жыцця. Але запозненыя... Вынікі падводзяцца. Ад пасады даводзіцца адмаўляцца. Аўтарытэт, які быў, згублены канчаткова. У вачах загараецца трывога, надзея, адчай... І ўсё гэта не «выпадае» з сатырычнага партрэта. Яна смешная, сцэнічная Бажашуткава, і яе крах успрымаецца як перамога здаровай маралі над слабай істотай, якая нарэшце адчула патрэбу нешта пераглядзець у самой сабе. Ці ўдасца?... Адказ на гэта пытанне—за межамі п'есы і спектакля. Гледачы самі дадумваюць фінал гісторыі і лёс Рагнеды Бажашуткавай. Беспрынцыповасць — агідная якасць. За яе даводзіцца і разлічвацца. З гэтым мы развітваемся з гераіняй спектакля «Амністыя». Уражанне застаецца яркае і павучальнае.**

У рэпертуары З. Браварскай такія вобразы сустракаюцца не адзін раз — «Блакада», «Зацюканы апостал», «Залатая карэта». На маю думку, тое, што ўмоўна можна назваць «сатырычнай лініяй» творчасці гэтай актрысы, атрымала найбольш завершанае і грунтоўнае адлюстраванне якраз у «Амністыі».

**М. МОДЭЛЬ.**

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА СПЕКТАКЛЬ ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА імя Янкі КУПАЛЫ «АМНІСТЫЯ».*

**А. ЛАБОВІЧ.** Амніставаць можна не заўжды. «ЛіМ», 1970, 11 снежня.

**М. КАЖДАН.** І так успрымаецца. «ЛіМ», 1970, 25 снежня.

**Т. АРЛОВА.** Гісторыя не толькі смешная. «Советская Белоруссия», 1971, 24 студзеня.

КІНО

# ЗВЯРТАЮЧЫСЯ ДА ЮНАЦТВА...

## «ПАЛАНЕЗ АГІНСКАГА» МАСТАЦКАЯ СТУЖКА СТУДЫІ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ» —

СЯРОД дзеячоў літаратуры і мастацтва, чые творы вылучаны на Дзяржаўную прэмію БССР 1972 года,—прозвішчы аўтараў мастацкай кінакарціны вытворчасці «Беларусьфільм» «Паланез Агінскага» драматурга тэатра і кіно Канстанціна Губарэвіча, рэжысёра Льва Голуба, аператара Рыгора Масальскага. Фільм пачаў сваё экраннае жыццё на самай высокай хвалі—з удзелу ў VII Міжнародным кінафестывалі ў Маскве. Да галоўных прызоў не дацягнуў, а дыплом Міністэрства асветы СССР атрымаў.

**Прыгоды хлопчыка Васілька, бацька якога загінуў на граніцы, а маці—ад кулі фашысцкіх акупантаў, некалькі нагадваюць прыгоды ранейшых герояў фільмаў К. Губарэвіча і Л. Голуба. Ва ўсіх іх юны герой ці гераіня губляюць бацькоў; шукаючы іх, трапляюць у розныя драматычныя сітуацыі, сутыкаюцца з рознымі людзьмі. Герой «Паланез Агінскага» блукае па вёсках, дапамагае партызанам узрываць дарогі і воінскія эшалоны, трапляе да немцаў, ратуецца ад іх і г.д. Гэта, можна сказаць, праверяныя аўтарамі «сюжэтныя хады». І ўсё ж новы фільм—не паўтарэнне, а працяг размовы беларускіх кінематаграфістаў з юнацтвам аб патрыятызме.**

Выканаўца ролі Васілька Ілюша Цукер добра разумее свайго героя—здольнага скрыпача, бо сам захапляецца музыкай. Рэжысёр дамогся ад хлопчыка шчырасці і непасрэднасці і ў іншых эпізодах карціны. Вось Васілёк ідзе на заданне з партызанам Максімам. Мы адчуваем, што хлопчык многа разумее і поўны рашучасці адпомсціць за тыя здзекі і крыўду, якую прынеслі на нашу зямлю фашысты. Васілёк улюбёна глядзіць на палі і пералескі, на сцяжынкі, па якіх блукае—ён любіць гэтую зямлю, якую так бязлітасна топчуць ворагі. Змагацца для яго—абавязак. Так яго вучылі. Так ён разумее.

Рэжысёр Л. Голуб умее працаваць з дзецьмі, пераконваць іх у рэальнасці менавіта такіх акалічнасцяў, у якіх яны павінны дзейнічаць.

Ратавацца ад фашыстаў юнаму герою дапамагае польскі арганіст Франек (польскі артыст Пётр Паўлоўскі). Для яго немалаважна, што хлопчык таленавіты музыкант. Сцэны, калі Васілёк і Франек выконваюць знаёмы паланез Агінскага—бадай, лепшыя ў фільме. Адсюль і назва яго. Шчымлівая любоў да Радзімы, якой прасякнуты гэты твор,—падтэкст усяго фільма.

Тры фільмы Л. Голуба, пастаўленыя па сцэнарыях К. Губарэвіча, сведчаць, што ў беларускім мастацтве працуюць здольныя людзі, якія дапаўняюць адзін аднаго. Аднак гэта не значыць, што выбраны імі шлях (вострасюжэтнага, у пэўным сэнсе прыгодніцкага кіно) — адзіны шлях у дзіцячым кінематографе. Фільмы «Звоняць, адчыніце дзверы», «Увага, чарапаха!» даюць падставы сцвярджаць, што паглыбленне ў псіхалагічны свет дзяцей дазваляе ствараць стужкі яркія, хвалюючыя, глыбокія, філасофскі-значныя і таксама даступныя і патрэбныя дзецям.

**Шчыра кажучы, псіхалагічнай глыбіні часам нестае героям фільма, вылучанага на прэмію. Мне асабіста здаецца, што больш актыўны, больш самастойны ва ўчынках мог і павінен быць яго галоўны герой. Драматург і рэжысёр залішне апякаюць яго, усюды «падпіраюць» дарослымі. Васільку ж мала дзе даводзіцца праявіць сваю прыродную кемлівасць і ініцыятыву. Адчуваецца некаторая пасіўнасць характару.**

**Аператар Р. Масальскі, вядомы па многіх цікавых дакументальных стужках, першы раз здымаў ігравы фільм. Вопытны рэжысёр Л. Голуб невыпадкова запрасіў менавіта яго. Ён разлічваў, што аператар-дакументаліст дапаможа больш дакладна перадаць атмасферу тых год. Так яно ўвогуле і атрымалася.**

Наогул, многае ў фільме, як кажуць, атрымалася: і па прафесійных кінематаграфічных якасцях, і па адборы выканаўцаў, і ў перадачы напружання тых трагічных і слаўных гадоў. Фільм уздзейнічае на юнацкую аўдыторыю, хвалюе. А гэта—якасці немалаважныя для кінатвора, адрасаванага моладзі. Ён з ліку тых мастацкіх стужак, якія маюць вялікі выхаваўчы патэнцыял. Гэта дае мне права галасаваць у падтрымку прапановы аб прысуджэнні аўтарам «Паланеза Агінскага» высокай прэміі.

**Е. БОНДАРАВА,**
**дацэнт БДУ імя Леніна.**

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА МАСТАЦКУЮ СТУЖКУ «ПАЛАНЕЗ АГІНСКАГА» СТУДЫІ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ».*

**Л. ІЗОБАВА.** Паланез Агінскага. «Віцебскі рабочы», 1971, 19 кастрычніка.

**А. ЧАРНУШЭВІЧ.** Старонка летапісу. «Знамя юности», 1971, 4 лістапада.

**Е. БОНДАРАВА.** Вернасць. «ЛіМ», 1971, 12 лістапада.

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

# Сілу ГУСЕВУ — 75



*14 жніўня спаўняецца 75 год старэйшаму беларускаму літаратару, удзельніку Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі Сілу Гусеву. З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі звяртаецца да юбіляра з прывітаннем, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Сіла Нікіфаравіч!**

**Вы прайшлі вялікі і складаны жыццёвы шлях, удзельнічалі ў рэвалюцыйнай барацьбе. Служба на крэйсеры «Аўрора» і ўдзел у штурме Зімняга палаца ў векапомным 1917 г. — важнейшыя падзеі ў Вашым жыцці.**

**У гады грамадзянскай вайны разам з байцамі Чырвонай Арміі Вы змагаліся з рэшткамі Дзікай дывізіі, з белапалякамі і немцамі ў Беларусі. Добра зарэкамендавалі сябе на партыйнай і савецкай рабоце.**

**Пасля заканчэння Камуністычнага інстытута журналістыкі імя Кірава Вы працавалі рэдактарам альманаха «Атака», а потым у радыёкамітэце. Нямала і іншых пасад даручалася Вам, і Вы заўсёды горача браліся за справу, з гонарам выконвалі яе.**

**Вас ведаюць і як аўтара мастацкіх твораў — зборніка апавяданняў «За жыццё» і аповесці «Шлях юнака». Прыемна адзначыць, што свой 75-гадовы юбілей Вы сустракаеце поўныя творчых сіл і бадзёрасці. Жадаем Вам, дарагі Сіла Нікіфаравіч, доўгіх год жыцця, найлепшага здароўя, шчасця, новых творчых і грамадскіх поспехаў».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтых шчырых слоў прывітання.*

# БЕЛАРУСКІ НУМАР «ДЕКОРАТИВНОГО ИСКУССТВА»

Ліпеньскі нумар часопіса «Декоративное искусство СССР», які нядаўна з'явіўся на прылаўках кіёскаў «Саюздруку», прысвечаны мастацтву Савецкай Беларусі.

«Шлях, пройдзены за паўстагоддзя» — так называецца артыкул міністра культуры БССР Ю. Міхневіча, якім адкрываецца нумар. Аўтар артыкула, у прыватнасці, піша: «Духоўныя фактары, як падкрэслівалася на XXIV з'ездзе КПСС, становяцца ўсё больш дзейснымі паскаральнікамі руху да камунізму. Яркае сведчанне таму — росквіт культуры, навукі, асветы, мастацтваў сацыялістычнай Беларусі».

Пераканаўча пацвярджаюць гэты тэзіс шматлікія і разнастайныя матэрыялы нумара, напісаныя мастацтвазнаўцамі і журналістамі нашай рэспублікі.

Змястоўны шлях развіцця прайшла ў беларускім савецкім выяўленчым мастацтве манументальная школа. Яе станаўленне разглядае мастацтвазнаўца А. Сурскі.

Пра вядомыя сёння па ўсёй краіне помнікі народнай мужнасці і славы — мемарыяльныя комплексы ў Брэсце і Хатыні, Курган Славы на 21-м кіламетры пад Мінскам — артыкул А. Белавусава «Помнікі вайны і міру».

Чытач знойдзе ў часопісе роздум пра творчыя праблемы, якія хвалююць майстроў беларускага шкла, стваральнікаў інтэр'ераў, мастакоў-дызайнераў, беларускіх керамістаў, стваральнікаў разнастайных сувеніраў.

Ёсць тут матэрыялы і па гісторыі жывапісу беларускага Палесся, і пра старадаўнюю драўляную скульптуру, і пра налібоцкае і ўрэцкае шкло, і пра сённяшніх мастакоў, якія ў Мінскім доме мадэляў распрацоўваюць новыя ўзоры моды.

Змешчана шырокая інфармацыя пра мастацкае жыццё рэспублікі. Ёсць «Старонка калекцыянера». Да ўсяго — нумар выдатна ілюстраваны.

# НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА

*ПОЎНАМЕТРАЖНЫ ФІЛЬМ ПРА НАРОДНАГА ПЕСНЯРА БЕЛАРУСІ ЯНКУ КУПАЛУ — «А ЗЯЗЮЛЯ КУКАВАЛА»*

Уладзімір ЮРЭВІЧ

Мастацкі твор—заўсёды адкрыццё. Нават калі гэта твор дакументальны і ў аснове яго ляжаць даўно знаёмыя факты з жыцця шырока вядомага чалавека. Тут гаворка можа ісці ўжо аб ступені мастацкага асэнсавання факта, якое павінна выклікаць абавязковую навізну ўспрымання.

У дакументальнай стужцы «А зязюля кукавала», створанай аб'яднаннем «Летапіс» на кінастудыі «Беларусьфільм», новых дакументаў вельмі мала. Лёс Янкі Купалы, якому прысвечаны поўнаметражны фільм, склаўся так, што яго асабістыя архівы панішчыла вайна, а тое, што ўдалося сабраць захадамі музейных і архіўных работнікаў, шырока вядомае і даволі скупое ў сэнсе выяўленчых магчымасцей, так неабходных для кіно.

**Дзесяць гадоў таму на экранах рэспублікі з'явіўся фільм «Янка Купала» ў дзвюх частках, дзе былі скарыстаны фотаздымкі, рукапісы, кадры кінахронікі, складзеныя ў храналагічным парадку адпаведна жыццяпісу народнага песняра. Гэта быў кінаальбом, які не надта ўзрушваў гледача тады, тым больш не можа яго ўзрушыць сёння. Глядач цяпер багата інфармаваны, і ад мастака ён чакае не проста ілюстрацый да вядомага, а творчага асэнсавання гістарычнай ці сучаснай нам жыццёвай праўды.**

Стваральнікі фільма «А зязюля кукавала» (аўтар сцэнарыя Анатоль Вялюгін, рэжысёр Віктар Дашук, аператар Рыгор Масальскі) пайшлі менавіта гэтай сцежкай, якая прынесла багаты плён. У дні 90-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы ў вянок памяці народнага паэта Беларусі ўплецена кінастужка, адметная сваёй эмацыянальнасцю, лірычнай усхваляванасцю, глыбіннай народнасцю, выразнай мовай паэтычнага, метафарычнага вобраза.

Пяць частак-навел, з якіх складзены фільм, — гэта пяць разгорнутых строф Купалавага верша «А зязюлька кукавала», у якім паэт, абапіраючыся на фальклорныя вобразы, прасочвае лёс аднаго з тых, што прагнулі «людзьмі звацца» і змагаліся за гэта ў агромністай дружнай грамадзе. А гэта і лёс самога песняра.

Чаму фільм падзелены на асобныя навелы, звязаныя агульнай плынню думкі? Мабыць таму, што жыццё і дзейнасць Янкі Купалы маюць пэўныя, вельмі выразныя этапы. Сцэнарыст прапанаваў такую структуру пабудовы стужкі, робячы ў кожнай з навел яркі ідэйна-мастацкі акцэнт. У гэтых акцэнтах гледачы адчуваюць вобразнае напаўненне дакумента, факта, падзеі, што складаюць змест навелы.

Фільм пачынаецца кароткім пралогам—дакументальнымі кадрамі, зробленымі ў час пахавання народнага паэта ўлетку 1942 года ў ваеннай Маскве. На ўсім, што трапіла тады ў аб'ектыў кінакамеры, адбітак часу. Суровасць і сціпласць. Няма слёз, яны былі ўжо выплаканы к таму часу ад гора, якое навалілася на здратаваную ворагам Беларусь, на ўсю Краіну Саветаў. Суровыя твары Міхася Лынькова, Кандрата Крапівы, Аляксандра Карнейчука, Іосіфа Уткіна, што застылі ганаровай вартай у форме вайскоўцаў. Ускладае кветкі на труну Ларыса Александроўская, сціпла выкананая стужка над узгалоўем з такімі шчымлівымі радкамі таго, хто ў труне: «Мне сняцца сны аб Беларусі»...

Валіцца зваяванае бурай дрэва, узнімаецца над ім віхура абарванага лісця... Па-народнаму сімвалічна—памёр чалавек. Знакаміты Чалавек. Гэты сімвал з'явіцца яшчэ раз, пад канец фільма. З'явіцца проста як паўтор, не падмацаваны ўнутраным развіццём асноўнай думкі фільма, якая ў тым, каб сцвердзіць бяссмерце вялікага паэта. Дарэчы, думка пра бяссмерце, пра тое, што Купала з намі сваёй непаўторна-багатай спадчынай, што ён наш сучаснік, праведзена аўтарамі фільма не да канца. Гэтая думка мае, галоўным чынам, эмацыянальнае выражэнне і прысутнічае, як правіла, у падтэксце, які ў фільме нясе вялізную нагрузку.

Першая навела—першая страфа верша. І назва ёй—выхаплены ў «фокус» купалаўскі радок: «Як на свет радзіўся Янка». Яна, гэтая навела, найбольш яркая, спелая, завершаная. Выдатна знятае аператарам народнае Купалле (плывуць агні па вадзе ў начной цемры, тонуць, знікаюць) разгортваецца на фоне «Купалінкі», якую выконвае папулярны ў наш час ансамбль «Песняры». Усё гэта стварае той эмацыянальны настрой, які пераносіць нас у канец мінулага стагоддзя, калі нарадзіўся пясняр народных дум і спадзяванняў.

А думы былі сумныя, спадзяванні ж —светлыя. «Расцягнутыя» на шырокі экран кадры старой хронікі з жыцця палешукоў падпарадкаваны галоўнай задачы—паказаць вытокі Купалавай творчасці, тыя глыбінныя крыніцы, якія жывілі гэтую творчасць на ўсім працягу



Гэты партрэт Я. Купалы ўпершыню мы ўбачылі ў фільме...



Адвечная песня



Цяжкое развітанне... 1941 год.

паэтавага жыцця. Запамінаюцца надоўга і сейбіт (такі ж ён па-купалаўску горды), і жняя з «сярпом крывым», і той мужык, што так увішна, спраўна пляце новыя лапці, каб адгуляць вяселле, і маладыя, што, сарамліва пазіраючы адно аднаму ў вочы, п'юць з аднае шклянкі гарэлку, топячы ў ёй сваю пазнаную на пачатку жыццёвай дарогі гаротную мужычую долю...

Гэта ўсё надта ж Купалава. Як і тэкст за кадрам, выбраны з паэтавых аўтабіяграфічных лістоў: «...наканавана мне належаць да разраду тых шматлікіх на святой Русі людзей, якіх звычайна называюць парыямі, вандроўцамі і да іх падобнымі тытуламі». Пахілены крыж над магілай бацькі і малодшых брата ды дзвюх сясцёр, што памерлі ў адзін год... І крыху ссутуленая постаць, што аддаляецца ў тумановы свет невядомасці... Гэта малады Янка, абцяжараны клопатам пра асірацелую сям'ю, падаўся ў людзі...

Праз фільм праходзіць цэлая галерэя фотапартрэтаў Янкі Купалы, знятых у розныя гады, у розным адзенні, у розным настроі. Партрэты вядомыя і па музейнай экспазіцыі, і па шматразовых публікацыях. А ўспрымаюцца як бы нанова зробленыя з жывога Купалы. Успрымаюцца аб'ёмна, нязвыкла абкадраваныя, пададзеныя ў руху камеры... Запамінаюцца вочы паэта—выразныя, разумныя, смела адкрытыя насустрач жыццю і нейкія сарамлівыя ў сваёй патаемнай глыбіні.

**Дакумент, такім чынам, набыў сваё новае жыццё, бо падпарадкаваны строгай аўтарскай задуме стваральнікаў фільма. Яны як бы кіруюцца парадай, выказанай вядомай пісьменніцай, аўтарам дакументальных мастацкіх кніг Марыетай Шагінян: «Трэба ўмець чытаць дакументы, трэба іх разварожваць, размаскіроўваць, а гэта справа мастака... Дакумент вельмі часта не адкрывае, а хавае праўду... Мастацкі, гэта значыць вобразны, аналіз дакумента—адна з самых захапляльных спраў гісторыка-раманіста». Ды і кожнага мастака, які звяртаецца да гісторыі, каб найбольш поўна зразумець дзень сённяшні як звяно складанага гістарычнага працэсу, раскрытага ў яго прошласці і ў перспектыве. Часткі-навелы фільма «А зязюля кукавала» далёкія ад той мёртвай схемы, калі захоўваецца толькі літара дакумента, ды не адчуваеш яго ўнутраны, глыбінны змест. Праўда, у другой частцы, калі гаворка заходзіць пра паэму «Курган», раптам вырываюцца прымітыўна выкананыя мультыплікацыйныя кадры-ілюстрацыі да гнеўных Купалавых слоў, якія чытаюцца за кадрам. (Гэта, бадай, адзіная ложка дзёгцю, якая трапіла ў добрую бочку мёду!)**

Дынамічны мантаж дакументаў дарэвалюцыйнай рэчаіснасці дазваляе адчуць усе тыя трывогі, якія не абміналі маладога паэта і гартавалі яго ўражлівую натуру. Магутна, як бы лунаючы над вялізным натоўпам, гучаць радкі Купалавага верша «А хто там ідзе?», што стаў на час народным гімнам беларусаў. Невялічкі эпізод неўміручай «Паўлінкі»... І хай занадта ўжо адкрыта, без належнага ўнутранага напаўнення, але зрываецца з вуснаў гераіні гнеўнае: «Звяры сляпыя!», трапляючы адразу ў цэль. На экране — фота губернатара Курлова і яго памагатых, а следам наплываў рукапіс вядомага «Водкліку з 29 кастрычніка 1905 г. у Мінску».

І зноў у імклівым мантажы змяняюцца кадры. Ляжыць распластаная постаць цара ў кароне — гэта нізрынуты воляй рэвалюцыйнага народа лад самадзяржаўя. Перамагае святло. «Не ў чэрвеньскую ноч расцвіла чароўная папараць, яна пачала цвісці ў грозныя Кастрычніцкія дні».

Новая навела пра тое, як «Янка сеяў—людзі жалі». Гэтая частка найбольш насычана дакументамі. Сярод іх шмат новых, упершыню адкрытых «жывых абразкоў», што адшуканы ў архівах Масквы, Кіева, Рыгі.

Шырока прадстаўлен Купала як пясняр дружбы народаў, як выдатны савецкі паэт. Купала ў прэзідыуме Першага Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў. Слухае Максіма Горкага, таго, хто адкрыў песняра, падтрымаў яго ў цяжкія гады царскай няволі, прызнаў сваім нястомным паплечнікам, паэтам-рэвалюцыянерам. Гэтая напісаная прамым горкаўскім почыркам тэлеграма, пададзеная ў фільме на ўвесь шырокі экран, застаецца вельмі важным, ударным акцэнтам у карціне.

...Купала павярнуўся да Аляксея Талстога, усміхаецца скупа, як умеў рабіць гэта толькі ён. «Жывыя» кадры дадаюць многае не толькі да вонкавага партрэта паэта, але і раскрываюць з новага боку невымерную Купалаву абаяльнасць.

Мы бачым у фільме ўпершыню кадры, знятыя ў Харкаве, на адкрыцці помніка Тарасу Шаўчэнку, і ў Рызе, на Першым з'ездзе пісьменнікаў Савецкай Латвіі. Іх мала, жывых сведчанняў жывога Купалы, але тым яны і бясцэнныя.

На экране—тыя, хто ведаў Янку Купалу, сябраваў з ім. Яны дадаюць да партрэта мастака невядомыя рысы гэтага непаўторнага чалавечага характару.

Аляксею Суркову запомніліся чыстыя, разумныя, заўсёды задуменныя, заглыбленыя ўнутр сябе вочы Купалы. Максім Лужанін у сваім, можа, залішне запаволеным раскаэе прадстаўляе нам разгневанага Купалу, абуранага несправядлівай, агульнай разноскай, аглабельнай вульгарнай крытыкай, скіраванай на маладую беларускую паэзію. Канстанцыя Буйло вядзе гаворку экзальтавана, ды, мусіць, інакш і нельга, прыгадваючы тое, як Уладка (жонка Купалы) прыехала ў Маскву ўся ўчарнелая і не застала ўжо Купалы, так і не развіталася з тым, каму аддавала так няшчадна сваё сэрца. Стрыманы Ян Ніедрэ, латышскі паэт, прыгадвае апошнюю сустрэчу са сваім цёзкам у гасцініцы «Масква», прыгадвае, ад хвалявання не знаходзячы патрэбных слоў... Шкада, што ў фільме кола сяброў абмежавана толькі калегамі па пяры.

У Купалы было шмат сяброў сярод людзей самых розных прафесій. Як дарэчы былі б успаміны тых, хто яшчэ памятае паэта па яго гасцяванні ў камуне над ракой Арэсай, хто быў з ім побач кожнае ляўкоўскае лета... Наогул, Ляўкам, як вельмі плённаму перыяду жыцця Купалы, не пашанцавала ў фільме... Як не пашанцавала і Акопам, дзе так шмат, гасцюючы ў маці, працаваў малады паэт, ствараў тое, што называем мы цяпер нашай класікай. Ляўкі як бы прасіліся ў фільме на асобную навелу, тым больш, што і пакінутая не раскрытай перадапошняя страфа верша «А зязюлька кукавала» вельмі адпавядае зместу ляўкоўскага перыяду жыцця паэта.

**Шмат чаго абмінута ў фільме, але не так ужо і шмат у ім лішніцы. Ці варта было насычаць яго большай колькасцю дакументаў? Калі падыходзіць з пазіцый «усесаюзнага» прадстаўлення паэта, грамадзяніна, чалавека, — варта. А ці не прайграла б тады эмацыянальная напоўненасць? Вядома, прайграла б. Эмацыянальнае набывае найбольшы напал, калі вобраз не патанае ў інфармацыі, а вынікае з яе, як кандэнсаванае выяўленне думкі, па-мастацку раскрытай у глыбокіх абагульненнях і яркіх асацыяцыях.**

**Гэты клопат аўтараў фільма «А зязюля кукавала», клопат пра тое, каб стварыць эмацыянальна насычаны партрэт вялікага сына беларускага народа, адчувальны ледзь не ў кожным кадры. І можа толькі музычнае выражэнне (кампазітар А. Янчанка) не ўсюды адпавядае настрою асобных кадраў. «Купалінка», якая праходзіць праз увесь фільм, не тая песня, што магла б сцэментаваць абагулены вобраз Купалы як песняра народных дум, трывог і самых светлых надзей. Яна вельмі ўжо лакальная, прывязаная да пэўнай пары года. Мне здаецца, што, калі б тэма «Купалінкі» не была прывязана да «Песняроў» (да іх манеры выканання, прынамсі), а знайшла б сваё развіццё, больш адпаведнае зместу і атмасферы кожнай часткі, фільм, мабыць, выйграў бы. На маю думку, сімфанічны аркестр з яго маштабнасцю і глыбінёй значна паўней выявіў бы духоўны змест творчасці Янкі Купалы...**

Час для стварэння фільма—крыху больш за год—быў даволі сціслы. І ўсё ж фільм атрымаўся. У ім раскрыты не толькі акрэслены дакументамі і біяграфічнымі звесткамі жыццёвы і творчы шлях паэта-волата, а і пафас подзвігу народнага песняра. Зроблена спроба паглыбіцца па-кінематаграфічнаму ў Купалаву спадчыну і ў яе святле паказаць постаць вялікага сына XX стагоддзя, што і сёння думамі і пачуццямі разам з намі.

Першая спроба так маштабна раскрыць вобраз паэта дае падставу спадзявацца, што беларускія кінематаграфісты прадоўжаць стварэнне Купаліяны на экране— як дакументальнай, так і мастацкай.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# ПЯТРУ ХАРКОВУ—50



*У віншавальным адрасе праўленне Саюза пісьменнікаў БССР нагадвае юбіляру, што ў юнацкія гады ён марыў пра тэатр, скончыў тэатральна-тэхнічнае вучылішча, але потым захапіўся журналістыкай і літаратурай. У вайну П. Харкоў апублікаваў у франтавым друку многа нарысаў пра герояў пярэдняга краю, апавяданні, вершы. У галіне тэатральнай драматургіі ён мае на сваім рахунку п'есы «Ад імя пакалення» і «Вечны агонь», лібрэта музычнай камедыі «Рэпартаж з пекла» (музыку да гэтага твора напісаў Я. Глебаў). Высока ацэнена грамадскасцю кінааповесць пра генерала Д. Карбышава «Пакуль б'ецца сэрца».*

*«Варта адзначыць, — гаворыцца ў прывітанні, — што Вы як член рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР шмат увагі аддаяце развіццю беларускай драматургіі і беларускага тэатральнага мастацтва.*

*Жадаем Вам, дарагі Пётр Андрэевіч, добрага здароўя, новых творчых поспехаў, шчасця».*

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання.*

●

Яго творчы старт быў на дзіва шчаслівы. Семнаццацігадовым юнаком ён з уласцівай маладосці дзёрзкасцю вырашыў паспаборнічаць з вядомымі майстрамі слова, прыняўшы ўдзел ва Усесаюзным конкурсе на лепшае апавяданне пра чыгуначнікаў. І ўжо зусім нечаканым быў фініш гэтага спаборніцтва, калі маладому аўтару паведамілі, што яго апавяданне «На далёкім раз'ездзе» адзначана прэміяй...

Радасць юнага пераможцы конкурсу была яшчэ большая ад таго, што ўзначальваў журы А. Серафімовіч — адзін з тых, хто стаяў ля калыскі новай сацыялістычнай літаратуры, — клапатліва сачыў за яе ростам. Магчыма, менавіта гэтая акалічнасць і вызначыла далейшы творчы лёс П. Харкова. У 1939 годзе па рэкамендацыі А. Серафімовіча ён паступае ў Літаратурны інстытут імя М. Горкага...

Потым — франтавое жыццё карэспандэнта армейскай газеты — жыццё поўнае суровай рамантыкі, з нялёгкімі радасцямі, з частымі небяспекамі. Пётр Харкоў прайшоў франтавую дарогу салдата і журналіста ад Арлоўска-Курскай дугі да Усходняй Прусіі, і гэта адлюстравалася ў яго творчасці, асноўным напрамкам якой з'яўляецца патэтыка подзвігу. Ён быў удзельнікам вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 3 ліпеня 1944 года разам з танкістамі ўступіў у Мінск, яшчэ каля гарэўшага Дома афіцэраў пісаў баявы рэпартаж у сваю армейскую газету. Пасля вайны доўгі час працаваў у акруговай газеце ЧБВА. Усё гэта парадніла смаленскага хлопца, што вырас у Маскве, з беларускай зямлёй, з Мінскам.

Мы ведаем літаратурную творчасць Пятра Харкова, як differentнабаковую і шматгранную. Гэта драматычныя творы. Гэта песні і кантаты, створаныя ў садружнасці з беларускімі кампазітарамі. Гэта шэраг канцэртных маналогаў, якія з поспехам выконваюцца артыстамі нашай рэспублікі.

Хочацца ад усёй душы пажадаць Пятру Андрэевічу Харкову новых творчых дасягненняў.

**Пятрусь МАКАЛЬ.**



Прыгожыя дзяўчаты ў гродзенскім ансамблі «Нёман».

Фота Ул. КРУКА.

У ЛІТАРАТУРНЫХ АБ'ЯДНАННЯХ

## ПАЭТ ДЗЕЛІЦЦА ВОПЫТАМ

Чарговае пасяджэнне абласнога літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі «Мінскай праўды» праходзіла цікава і не зусім звычайна: у госці да маладых літаратараў прыйшоў лаўрэат прэміі імя Янкі Купалы, старшыня секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў БССР Мікола Аўрамчык.

Пасля абмеркавання новых вершаў, якія прачыталі рабочыя Васіль Мілюк, Анатоль Майсееў, журналіст Іван Абабурка, студэнт Алесь Пісарчык, шчодра адкрыў сваю творчую лабараторыю Мікола Аўрамчык. Ён расказаў, як ствараў свае вершы аб шахцёрах Салігорска і аб універсітэцкім гарадку, як працуе з маладымі аўтарамі секцыя паэзіі. Гаворка вылілася ў творчую дыскусію аб стане сучаснай беларускай і савецкай паэзіі ўвогуле. У спрэчках прынялі ўдзел члены аб'яднання Ніна Галіноўская, Леў Мароз, Аляўціна Фомушкіна, Рыгор Малочка, Іван Шашок і інш.

Сустрэча была плённай і цікавай. Хочацца, каб такія спатканні майстроў слова з пачаткоўцамі былі часцейшымі.

**М. ВЯРШЫНІН.**

З пошты ЛіМ-а

## ВАРТА ПАВУЧЫЦЦА

Здаецца, зусім нядаўна літоўскія краязнаўцы і вучоныя даследавалі пагранічны з Беларуссю раён Літвы — Дзевянішкес. Прайшоў кароткі час, і нашы літоўскія сябры-краязнаўцы выдалі сем манаграфій — «Зервінас», «Ігналінскі край», «Дзевянішкес», «Наваколлі Гайдэ і Рымшэ», «Эржвілкас», «Меркіне», «Дубінгяй». А тое, што не ўвайшло ў манаграфіі, трапляе ў серыйнае выданне «Краязнаўства».

У трэцім нумары часопіса «Советская этнография» Н. Велюс піша, што ў першай экспедыцыі бралі ўдзел 12 чалавек, у апошняй — 150. Цікава, што апошняя экспедыцыя была праведзена ў Астравецкі раён нашай рэспублікі. Тут былі самыя розныя літоўскія спецыялісты: археолагі, гісторыкі, этнографы, мовазнаўцы, фалькларысты, музыказнаўцы, мастакі, медыкі, юрысты, географы і г. д.

Як піша далей Н. Велюс у сваім артыкуле «Комплексныя экспедыцыі літоўскіх краязнаўцаў», «этнографы даследуюць формы традыцыйнага земляробства, розныя промыслы, народную архітэктуру, інтэр'ер жылых дамоў, традыцыйную мэблю, адзенне, тканіны, ежу, сямейныя і каляндарныя абрады, старадаўнія вераванні, народнае мастацтва. Мовазнаўцы збіраюць матэрыялы па анамастыцы, фразеалогіі, даследуюць гаворку. Фалькларысты запісваюць творы вуснай народнай творчасці, тысячы фальклорных твораў...»

Усе матэрыялы паступаюць у Вільнюскі этнаграфічны музей. Між іншым, пасля кожнай экспедыцыі яе ўдзельнікі даюць справаздачу мясцовым жыхарам.

Што і казаць, вопыт нашых суседзяў вельмі і вельмі цікавы.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

## ЁСЦЬ У ГОРАДЗЕ КЛУБ...

НЯДАЎНА адбыўся дзесяты выпуск Маладзечанскай студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У сувязі з гэтым была адкрыта справаздачная выстаўка работ студыйцаў.

...Пейзажы, нацюрморты, кампазіцыі. Кожная работа цікавая па-свойму — «Нацюрморт з гронкамі» Анатоля Бараўца (акварэль) і «Нацюрморт са збанам» Людмілы Летуновай, акварэльныя пейзажы Эдуарда Тамковіча — «Куток горада. Чырвоныя дамы», «Масток», «Стары горад». Цікавыя па колеры, вобразным вырашэнні работы Ірыны Грышкевіч «Поры года» (асабліва «Восень») і кампазіцыі, выкананыя ў кераміцы — «Сава», «Певень», «Кураня», «Бобік», «Кактус». Падкупляюць сваёй непасрэднасцю работы Станіслава Бараноўскага, Руслана Рабцава, гравюры Равіля Хабібаева, Пятра Дзёмава, кераміка Настассі Наркевіч, Міхася Лазара і іншых студыйцаў.

Тут жа ў выставачнай зале адбылася творчая сустрэча выпускнікоў студыі з мастакамі Беларусі — Леанідам Дударэнкам, Фёдарам Зільберам, работнікамі рэспубліканскага дома народнай творчасці. Ішла размова аб творчасці, аб задачах мастацтва і задачах студыі, аб тым, што радуе маладых мастакоў, аб цяжкасцях творчага і арганізацыйнага росту.

Дзесяць гадоў жыве студыя напружаным творчым жыццём. Добра наладжаны навучальны працэс дапамагае маладым мастакам авалодаць асновамі мастацкай граматы, неабходнымі навыкамі. Многія выхаванцы студыі працуюць мастакамі ў бюро тэхнічнай эстэтыкі мясцовых прамысловых прадпрыемстваў, напрыклад, Рая Чарнышова, браты Алесь і Анатоль Баравец і інш. Больш як 15 чалавек — выпускнікоў студыі — паступілі ў мастацкія вучылішчы, у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

Студыя займае цэнтральнае месца ў мастацкім жыцці горада, вядзе вялікую работу па ідэйна-эстэтычным выхаванні моладзі. Сюды ідуць усе, хто цікавіцца мастацтвам, з першымі, часам яшчэ няўмела выкананымі работамі, эскізамі. У студыі яны атрымліваюць кваліфікаваную дапамогу, добрую параду.

Па сутнасці, студыя з'яўляецца і гарадскім, і міжраённым творчым клубам самадзейных мастакоў і народных майстроў. Пры гэтым, лепшая для іх школа — выстаўкі, іх абмеркаванні, удзел у рабоце творчых семінараў, канферэнцый, на якія запрашаюцца майстры народнай мастацкай творчасці з 8-мі (!) раёнаў. Значэнне студыі для горада з 80-тысячным насельніцтвам і суседніх раёнаў — велізарнае.

— Мастацкая творчасць, фотакінамастацтва з кожным годам прыцягваюць да сябе ўсё новых і новых аматараў, моладзь, — гаворыць мастачка Ядвіга Раздзялоўская. — Нясмелыя дзяўчынкі і хлопчыкі, якія ўпершыню пераступілі парог студыі, яшчэ баяцца дакрануцца да пэндзля, фарбаў. Мінае час і раптам здзяйсняецца цуд. Чалавек становіцца зусім іншым. Ён не проста навучыўся маляваць, адчуваць колер, разумець законы прыгажосці, галоўнае ў іншым — ён быццам пачаў выразней бачыць, стаў разумець прыгажосць жыцця і, як мне здаецца, знайшоў сваё месца ў жыцці. Увогуле стаў прыгажэйшы сам.

**Таццяна АСВЕЙСКАЯ.**

*Паэтычная* ПАВЕРКА

Анатоль ШАЎНЯ



## ПАЧАТАК БІЯГРАФІІ

Я пра дзеда свайго не пісаў,
Хоць і быў мой дзед знакаміты:
Колькі печаў па вёсках склаў,
Колькі ім кажухоў пашыта!
А як возьме сякеру ў руку —
Дык спявае ўсё наваколле.
Вёў заўсёды ён талаку,
Вёў сяброўскае ён застолле.
Толькі дзеда цяпер няма, —
Надыходзіў Кастрычнік бурны.
Недзе ў нетрах тых год віхурных
Загубіўся ягоны след...
Я пачуў ад вясковых кабет,
Як калісьці, парой зялёнай,
У бясхлебніцу, ў блізкі свет,
Развітаўшыся з добрымі клёнамі,
Ад'язджаў мой вясёлы дзед.
Дні ляцелі, як вырай крылаты.
Стаў сівы яго меншы сын.
І далёка ад роднае хаты
Мяне стрэў пра яго ўспамін.
У краі — дзе Масква-рака
І вясною буяе бэз,
Вёска ёсць — Пракопава Сажалка,
І кляновы Пракопаў Лес.
Я пра тое нічога не ведаў, —
Ад вяскоўцаў пачуў адказ:
«Гэта памяць пра нейкага дзеда,
Што стварыў тут першы калгас».

●

Лёс мяне пашкадаваў,
Шмат гадоў мне форы даў —
Кулі, мне наканаваныя,
«У малако» калісь паслаў.

У далёкім сорак пятым
Замачаў сябрук зацята:
Не ў маіх тады руках
Разарвалася граната.

Зноў пад май цвітуць сады,
Свеціць месяц малады.
Ды жывуць трывожна ў памяці
Тыя даўнія гады.

## ВЕЧАРЫНКА

Паміж «будзе» і «было»
Шчасце юнае брыло.
Завітала на гулянку —
Загудзела ўсё сяло.

Кожны сам сабе мастак,
Можа гэтак, можа так,
Бубен бухае у грудзі, —
Рэжа полечку марак.

Гэй, дзяўчаткі, хто на круг?
Замарыўся мілы друг.
Гляньце —флот Балтыйскі гіне,
Выручай давай, сябрук!

Заўтра ранічкай да дня
Лепшага цугляй каня:
Трактарыст дамоў вярнуўся, —
Будзеш сватам, старшыня.

Паміж «будзе» і «было»
Шчасце хмельнае брыло.
Стрэла Янку ды з каханкай —
Прыпісалася ў сяло.

НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# СУСТРЭЧЫ ЛЯ МІКРАФОНА

**ЗАСЛУЖАНЫ ДЗЕЯЧ КУЛЬТУРЫ БССР Любоў БАЦВІННІК**



— ГЭТА фраза галоўная, таму яе трэба «несці» шырока, чытаць больш павольна. Але ж гаварыць «шырока» — не значыць спяваць. Не трэба ні спяваць, ні дэкламаваць, даражэнькі, не трэба. А нашто вы ставіце пасля кожнага сказа кропку? Яна ёсць у тэксце? Але гаспадараць у тэксце думкі, а не кропкі. Думка працягваецца — гэта і павінна быць законам пры чытанні. А зараз раскажыце сваімі словамі, пра што вы чытаеце. Калі гэта атрымаецца, і чытаць зможаце лагічна...

У нашай невялікай дыктарскай ідуць заняткі студыі дыктараў. Такая студыя на грамадскіх асновах працуе на Беларускім радыё. Сёння займаецца з моладдзю заслужаны дзеяч культуры рэспублікі Любоў Якаўлеўна Бацвіннік.

— Вы не стаміліся?

— Можа, хутчэй наадварот? — смяецца Любоў Якаўлеўна. — Ведаеце, я стамляюся, калі няма работы.

І гэта не дзеля слоў. Любоў Якаўлеўна раней за ўсіх прыходзіць на работу, уважліва праглядае расклад перадач і шчыра радуецца, калі не прыйдзецца «адседжваць» змену.

Прыемна зараз перадаваць свой вопыт малодшым таварышам па рабоце і студыйцам. Вопыт, які вылічваецца больш чым саракагадовай працай...

30 верасня 1930 года Беларускае радыё праводзіла конкурс дыктараў. Лёгка зразумець, як рамантычна гучала назва гэтай незвычайнай прафесіі ў той час, калі маленькі дэтэктарны прыёмнік успрымаўся як цуд.

Добра зараз кпіць з сябе тагачаснай — маладзенькай, танюткай дзяўчынкі: была баязлівай, конкурс здаваўся «страшным судом», а камісія грознай і недаступнай. І сапраўды, у камісіі былі першапраходцы беларускага эфіру: Ніна Кабаліна, Аляксандр Юрэвіч, Антон Война, Міхаіл Руткоўскі і іншыя. Ператрэслася на экзаменах—надзеі, бадай, ніякай, бо патрабаваўся ўсяго адзін дыктар, а ў конкурсе ўдзельнічала каля ста чалавек... Немагчымае адбылося: Любоў Якаўлеўна Бацвіннік была залічана на радыё дыктарам.

Працоўная сцежка здалася спачатку вельмі цяжкай. Адказнасць якая!

У студыі ў тыя часы, акрамя дыктараў, знаходзіліся або хор, або аркестр, або салісты. Зразумела, цяжка было пачынаць чытаць на гэтакім «шматлюддзі». Не заўсёды музычнае афармленне адпавядала зместу матэрыялу. Бывала, дыктары чытаюць сельскагаспадарчыя навіны, а барытон пяе куплеты Тарэадора або мяккі тэнар выводзіць арыю Ленскага.

Назаўсёды запомнілася першая самастойная перадача (як усё першае, што бывае ў жыцці). «Піянерская газета» — так яна называлася. Хвалявалася Люба, хоць далі пачытаць толькі некалькі інфармацый і верш.

Перадачы ў той час, усе без выключэння, былі «жывыя». Тэхніка на мяжы фантастыкі — інакш зараз і не скажаш аб радыёапаратуры таго часу. Дыктару даводзілася «кіраваць» гэтай тэхнікай. У студыі стаяў двухдыскавы грамафонны стол (ён дзейнічаў з дапамогай электрычнасці). Двухдыскавы, таму што на адным дыску пласцінка іграе, а на другім падрыхтаваны працяг музычнага нумара ці чарговы нумар праграмы. Аб'явіць Любачка ў мікрафон, што зараз пачуе слухач, а потым перакіне ключык на адмеціну «грамзапіс», хуценька ўстае і сама пускае пласцінку. Потым ужо з'явіўся ў студыі гукааператар (так нараджаліся новыя прафесіі), які сядзеў на перадачы разам з дыктарам і пасля дыктарскай аб'явы ставіў і «запускаў у эфір» пласцінку.

Арыгінальна адбываўся «абрад» праверкі часу. Аб'явіць дыктар: «Зараз 12 гадзін», — а потым да раяля, які стаіць у студыі, і пальцам па клавішы выстуквае мерна і нетаропка 12 разоў.

Па тэхнічных умовах радыёспектаклі, дзе было занята шмат выканаўцаў, вяліся адразу з дзвюх студый. Не вельмі зручна гэта было для акцёраў, таму што рэплікі яны чулі ў навушніках, а партнёр часта знаходзіўся ў другім пакоі. Любоў Якаўлеўна вяла спектакль па паэме Гогаля «Мёртвыя душы» — таксама з навушнікамі чытала тэкст ад аўтара.

— Спектакль гэты паўтараўся «жыўцом» некалькі разоў па заяўках радыёслухачоў, — расказвае Любоў Якаўлеўна, — і трэба падкрэсліць — без адзінай накладкі, хоць і вельмі складана было весці перадачу.

А потым з'явілася новая тэхніка — «шарынафон», апарат для запісу гуку. Спачатку асцярожна, а потым усё больш смела сталі запіс-

ЗДЫМАЮЦЬ ФОТААМАТАРЫ

## СЦЕЖКАМІ РОДНАГА ГРОДНА

*Я вельмі люблю свой горад. Люблю імклівы бег Нёмана, люблю шырокія праспекты, што пралеглі па маім горадзе ў пасляваенны час, люблю і куткі, дзе ўсё дыхае гісторыяй. Некалькі фотаздымкаў, зробленых тут, я прапаную чытачам «Літаратуры і мастацтва».*

*Пра сябе скажу толькі, што я рабочы Гродзенскага завода аўтамабільных агрэгатаў, завочна вучуся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.*

В. БАЛАМУТ.



Гэтая гармата, зусім не страшная сёння, некалі наводзіла на ворагаў жах...

У МАЙСТЭРНЯХ *мастакоў*

# ЧЛЕН «АКВАРЭЛЬНАЙ



Яго дзед — Уладзіслаў Галубок — быў рэжысёрам, драматургам і мастаком. Бацька і дзядзька — таксама мастакі. Мастак і ён сам: «Як бачыце, шаную і працягваю сямейныя традыцыі...»

Я прыйшоў у майстэрню да Генрыха Ціхановіча пад вечар. Карціны, эцюды, эскізы... Адны акуратна развешаны, другія неўладкавана прытулены да сцен або грувасцяцца на груба збітых стэлажах да самай столі. Мы размаўляем, а дужыя рукі Генрыха ні на мінуту не адрываюцца ад работы — фланеллю труць металічную дошку. Рукі чорныя ад фарбаў, лаку, цынку. Рукі чалавека, які добра ведае справу.

За вокнамі згушчаецца ноч. У кутках майстэрні — фантастычныя цені. Гартаем першы альбом Гены, альбом яго дзіцячых малюнкаў, клапатліва захаваны бацькам. Вось першы малюнак — аўтару не было і двух гадоў. А вось малюнак, надрукаваны ў газеце «Пионер»: «Чырвоныя часці ўвайшлі ў горад Мінск». Генрых зрабіў яго, калі вучыўся ў першым класе. Чвэрць стагоддзя мінула з таго часу. За плячыма сямігодка, вучылішча, тэатральна-мастацкі інстытут. Гады пошукаў, сум-

ваць жывыя галасы — так і дыктар сам упершыню пачуў свой голас па радыё. Але асноўнае вяшчанне ішло ў «жывым» выкананні.

Непасрэднымі былі трансляцыі з тэатраў, канцэртных залаў, залаў пасяджэнняў, святочныя рэпартажы з плошчаў, з месцаў дэманстрацый. І абавязковы ўдзельнік гэтых перадач — малады дыктар Любоў Бацвіннік.

У студыю прыходзілі члены ўрэда, сакратары ЦК Кампартыі Беларусі, ля мікрафона выступалі пісьменнікі, навуковыя работнікі, рабочыя, сяляне. Быць запрошаным на радыё, выступіць перад мільёнамі слухачоў лічылася вялікім гонарам. У студыю заходзілі як у «святая святых». І само сабой зразумела, як узбагачаўся духоўны свет дыктарэ, які вёў гутарку з гасцямі.

А сустрэчы былі незабыўныя.

Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў — старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта рэспублікі. Трымаўся вельмі проста, шчыра, а ля мікрафона хваляваўся, хоць і не вельмі гэта было прыкметна. Але калі сядзіш побач...

Любіў заходзіць у дыктарскую Янка Купала. Сядзіць і ўважліва слухае, як артысты перад мікрафонам чытаюць яго вершы. Слухаў усхвалявана: курыў сваю нязменную люльку і плакаў. І не тое, каб на вачах слёзы, а проста плакаў, як дзіця,— такі непэсрэдны быў чалавек, вельмі эмацыянальны.

Якуб Колас сам чытаў выдатна. У перадачах для дзяцей інтанацыі, голас, твар, усё рабілася іншым: былы педагог, ён умеў даносіць да дзіцячай аўдыторыі сваё адчуванне паэзіі. Для дарослых жа чытаў зусім у іншай мэнеры.

Частымі гасцямі на радыё былі Змітрок Бядуля, Платон Галавач, Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Мікола Хведаровіч, Тодар Кляшторны і многія іншыя.

Запомніліся Любові Якаўлеўне канцэрты майстроў, якія пазней уславілі беларускае мастацтва: Л. Александроўскай, Р. Млодэк, С. Друкер, І. Балоціна, М. Дзянісава, І. Жыновіча, А. Бяссмертнага. Іх «жывыя» канцэрты вяла Любоў Якаўлеўна. У час радыёканцэртаў выяўляліся і нейкія цікавыя, нечаканыя асабістыя якасці выканаўцаў. Так, вельмі вясёлым, дасціпным чалавекэм аказаўся Ісідар Балоцін, камедыйныя здольнасці якога пазней ярка раскрыліся, напрыклад, у ролі пана Дамазы з оперы Манюшкі «Страшны двор». Пачынаецца музычны ўступ, а Балоцін раптам стане ў балетную позу, у момант пераўвасобіццэ ў дзяўчынку-балерыну. Некалькі бясшумных, пацешных, грацыёзных піруэтаў — і зноў імгненнае пераўвасабленне: гучыць арыя Ленскага, льецца прыгожы голас спевака. А дыктару і засмяяцца не пасмей — мікрафон жа ўключаны...

У сярэдзіне верасня 1937 года Усесаюзнае радыё праводзіла вучэбны семінар для дыктараў саюзных рэспублік. Беларускае радыё паслала ў Маскву Любоў Якаўлеўну. Ці думала яна, асвойваючы таямніцы прафесійнага майстэрства, што праз некалькі год прыйдзецца працаваць у Маскве, разам з маскоўскімі дыктарамі весці перадачы для роднай Бацькаўшчыны, для братоў-беларусаў, якія апынуцца пад фашысцкай акупацыяй...

1 студзеня 1942 года ў Маскве пачала працаваць радыёстанцыя «Савецкая Беларусь». Слова беларускае прыляцела з Масквы, з самага сэрца Радзімы.

«Увага! Гаворыць радыёстанцыя «Савецкая Беларусь». Слухай нас, родны беларускі народ! Слухай нас, родная беларуская зямля!» Як успрымаліся перадачы на акупаванай тэрыторыі, зразумець няцяжка.

«Наўрад ці сам Папоў, калі ўпершыню перадаў у эфір свае радыёхвалі, быў так усхваляваны, як мы, калі раздабылі маленькі радыёпрыёмнік «Калгаснік»... Мы адчулі дыханне Радзімы, мы пачулі яе голас», — гэта словы аднаго з актыўных удзельнікаў пэртызанскага руху В. Андрэева.

Любоў Якаўлеўна Бацвіннік актыўна ўключаецца ў работу на Беларускім радыё. Разам з дыктарам Уладзімірам Юрэвічам і намеснікам адказнага рэдактара Вячэславам Палескім Любоў Якаўлеўна перадае звесткі з франтоў і з партызанскіх атрадаў, чытае паведамленні і аператыўныя зводкі Савецкага Інфармбюро, даклады, прамовы і загады, звесткі аб працоўных подзвігах народа ў савецкім тыле і г. д. І кожная перадача канчалася заклікам: «Смерць нямецкім акупантам! Няхай жыве свабодная Савецкая Беларусь!»

І зноў нечаканая, хвалюючая сустрэча: на радыё прыйшоў Якуб Колас. Было гэта вясной 1943 года. Паэт чытаў паэму «Адплата». Каля ста радкоў сам прачытаў, а астатняе — дыктары Любоў Бацвіннік і Уладзімір Юрэвіч. Вельмі хваляваліся, бо аўтар стаяў побач, слухаў уважліва. А чыталі без пэдрыхтоўкі, як называюць гэта дыктары, «з ліста». Якуб Колас шчыра дзякаваў выканаўцам, быў вельмі задаволены іх трапнымі інтанацыямі, праўдзівым і ўсхваляваным чытаннем.

— У гэты час,—гаворыць Любоў Якаўлеўна, — мы як ніколі адчувалі дабрату, клопаты, чалавечую падтрымку і дапамогу з боку супрацоўнікаў Усесаюзнага радыё. У нашых перадачах прымалі ўдзел цяпер заслужаныя артысты РСФСР Вольга Высоцкая, Юрый Левітан, Надзея Аленіна, Мікалай Дубравік і іншыя. А мой былы настаўнік па даваенным семінары Уладзімір Герцык вылятаў да варожых пазіцый і на нямецкай мове выкрываў хлусню фашыстаў простым салдатам — як бачыце, і на фронце не раставаўся з мікрафонам...

У пачатку сакавіка 1944 года ў Навабеліцу з Масквы прыбыла перасоўная радыёстанцыя. Яна размяшчалася ў трох вагонах і называлася ласкава — «Пчолка». Фронт праходзіў яшчэ зусім блізка, за 60 кіламетраў ад Гомеля. 25 сакавіка ў эфіры прагучалі пазыўныя новай беларускэй радыёстанцыі, і дыктары Любоў Бацвіннік і Алесь Астапенка аб'явілі: «Увага! Увага! Гаворыць радыёстанцыя імя Саўнаркома Беларусі на хвалі 531 метр!»

А хутка Беларускае рэспубліканскае радыё зноў пасялілася ў роднай сталіцы. І дыктэр Любоў Бацвіннік вярнулася ў родны горад...

Калі сёння вы чуеце добра знаёмы голас, ведайце: гэта па-ранейшаму працуе ля мікрафона шчыры чалавек, са светлым позіркам, з добрым сэрцам. І па-ранейшаму ў канцы перадачы мы чуем бадзёры, чысты голас: «Чытала Любоў Бацвіннік».

**А. КАЛАМІНСКАЯ,**
**дыктар Беларускага радыё.**



Пад гэтай аркай прайшлі стагоддзі...



Яны, мабыць, аднагодкі...

# У НАШАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ...

*ПА ПІСЬМАХ ЧЫТАЧОЎ*

Зараз, у Міжнародны год кнігі, асабліва разнастайна і актыўна працуюць бібліятэкі рэспублікі. Шматлікія пісьмы чытачоў расказваюць пра гэтую работу, пра людзей, якія, не шкадуючы ні сіл, ні часу, прапагандуюць кнігу.

«Шмат гадоў працуе на грамадскіх асновах у бібліятэцы Барысаўскага інтэрната ветэранаў працы Раман Іларыёнавіч Клімко, — паведамляе М. Гатоўкін. — Нягледзячы на свае 82 гады і слабое здароўе, ён здолеў дабіцца таго, што бібліятэка стала цэнтрам усёй культурна-выхаваўчай работы ў інтэрнаце».

Не толькі добрыя работнікі, але і клапатлівыя, чулыя людзі працуюць у Бярэзінскай дзіцячай бібліятэцы. Яніна Адамаўна Булайчык, Лідзія Герасімаўна Кушнер, Галіна Аляксееўна Няхай умеюць працаваць з катэгорыяй так званых «цяжкіх дзяцей». І калі васьмікласнік Алег Берандзееў зняты цяпер з уліку ў пакоі міліцыі, у гэтым немалая заслуга работнікаў бібліятэкі, якія шукалі для хлопчыка кнігі аб гераізме і подзвігу савецкага народа, не раз гаварылі з ім аб сапраўднай рамантыцы, спрачаліся... Аб гэтым расказаў нам М. Масленікаў, былы настаўнік, цяпер пенсіянер.

Інжынер Гомельскага тлушчавага камбіната А. Каралёў піша пра вечары з цыкла «Саюз непарушны рэспублік свабодных», якія зараз з вялікім поспехам праходзяць у бібліятэцы камбіната. Работнікі бібліятэкі, і ў прыватнасці, загадчыца Е. Эстрына, пастаянна вучацца, прыцягваюць да работы не толькі актыўных чытачоў, але і сваіх калег — М. Равіч з Навабеліцкай, Т. Каласкову з Гомельскай гарадскіх бібліятэк.

Міжнароднаму году кнігі і 50-годдзю стварэння СССР быў прысвечаны конкурс на лепшага бібліятэкара, які праводзіўся ў Зэльвенскім раёне на Гродзеншчыне. Загадчык навукова-метадычнага аддзела Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Я. Карскага Ю. Іваноў расказвае пра вопыт работы загадчыцы Ялуцэвінкай сельскай бібліятэкі Людмілы Паўлаўны Якімец, якая стала пераможцам конкурсу.

У калгасе імя Ульянава Іўеўскага раёна — чатыры бібліятэкі. Тысячы кніжных тамоў захоўваюць яны. А калісьці, пры панскай Польшчы, першая народная бібліятэка ў Забярэззі была разгромлена, не папрацаваўшы і пяці гадоў. Але партрэт народнага песняра Беларусі Янкі Купалы, што вісеў на сцяне, жыхары паспелі схаваць. Адзінаццаць гадоў быў ён у Наталлі Пратасевіч. А перад самай вайной перайшоў да дачкі, Марыі Махніцкай. Хаваючы партрэт пад адзеннем, паўзла Марыя да лесу, калі акупанты палілі вёску. Захаваўся партрэт Купалы, а кнігі яго цяпер— у кожным доме... Гэтую гісторыю расказаў нам журналіст Я. Макоўскі.

Актыўна піша ў газету выкладчык Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума В. Арцем'еў. У апошнім пісьме ён расказвае пра бібліятэкараў Ірыну Усовіч, Алену Сямёнаву, Вольгу Рудзько, Зінаіду Ганчарэнка.

Мы рады пісьмам, што прыходзяць у газету. Але хацелася б чытаць у іх не толькі інфармацыйны матэрыял пра тое, што ўжо дасягнута, зроблена, а яшчэ і роздум па хвалюючых праблемах, па нявырашаных пытаннях бібліятэчнай практыкі.

# ЗБОРНАЙ»

ненняў, роздуму ля мальберта. Шматлікія паездкі па краіне. Дзесяткі жывапісных палотнаў, горы акварэльных аркушаў.

Ён прымаў удзел амаль у дваццаці рэспубліканскіх і ўсесаюзных мастацкіх выстаўках. Былі яго работы і на «ЭКСПО-70».

Характэрна, што на большасці выставак апошніх гадоў Генрых Ціхановіч удзельнічаў у асноўным як акварэліст. Нягледзячы на тое, што па адукацыі ён — жывапісец, акварэль — яго даўняе захапленне.

Некалькі год назад па ініцыятыве Саюза мастакоў СССР і Міністэрства культуры СССР пачалі праводзіцца творчыя паездкі мастакоў па краіне. У 1968 годзе для паездкі ў Сярэднюю Азію была ўтворана група найбольш адметных акварэлістаў усіх нашых рэспублік (яе называлі— «акварэльная зборная Саюза»). Сюды трапілі мастакі і сталага веку, славутыя, і зусім яшчэ маладыя, мала каму вядомыя. Ад Беларусі ў гэтай брыгадзе быў Генрых Ціхановіч. За сорак дзён мастакі наведалі Хіву, Бухару, Наваі, Душанбе, Ташкент, Самарканд, Нурэкскую ГЭС... Стамляльнай была гэтая паездка, але — цікавай і плённай. Кожны дзень праглядалі і аналізавалі новыя работы адзін аднаго.

— Атмасфера панавала сяброўская, — успамінае Генрых, — але мы адчувалі сябе як на спаборніцтвах. Нібыта абараняеш гонар рэспублікі. Хадзілі на натуру з першымі праменнямі сонца і часта працавалі да вечара.

Для Ціхановіча гэта былі дні творчай вучобы. Ён уважліва прыглядаўся, як працуюць паплечнікі, знаёміўся з рознымі манерамі акварэльнага пісьма.

— Памятаю, пісаў я ў Хіве ўнутраны дворык ханскага гарэма, — усміхаецца Генрых. — А ў дворыку рыхтаваўся працаваць 60-гадовы латышскі мастак. Стаю, любуюся. Стары разаслаў паперу на зямлі—яна грыміць, як бляха. Потым паліў аркуш вадой і пачаў апрацоўваць яго нагамі. Такое я ўбачыў упершыню!..

У канцы падарожжа вялікая справаздачная выстаўка ў Бухары, аб якой многа пісалі. Цёпла адазвалася прэса і аб маладым беларускім мастаку. Праз некаторы час на ўсесаюзнай выстаўцы ў Ленінградзе экспанаваліся і заслужылі шмат добрых слоў яго работы «Бухара» і «Поле бавоўны».

Потым былі яшчэ творчыя паездкі з акварэлістамі ў Сібір, у Карэлію, — першая, сярэднеазіяцкая, найбольш памятная. Аб ёй Генрых можа гаварыць доўга і натхнёна. Праглядаючы творы Ціхановіча, адразу заўважаеш, як расцвіла палітра мастака пасля гэтай паездкі—колеры сталі больш вытанчаныя, з'явілася больш сонечнага святла.

Галоўная вартасць акварэлі — у празрыстасці. А ў Генрыха нават скрозь накладзеныя ў некалькі слаёў фарбы папера заўсёды прасвечвае, і ліст ніколі не гасне.

Нярэдка акварэлісты не выходзяць за межы графічных прыёмаў, «падфарбоўваюць» аркуш, у аснове сваёй графічны. Ціхановіч піша ў шырокай манеры — так званая тэхніка «па вільготным», калі аркуш паперы поўнасцю размочваецца ў вадзе. Яго творам уласцівы багаты каларыт, чысціня фарбаў, высокая культура выканання, цэласнасць. Цікава, што менавіта заняткі акварэллю садзейнічалі пранікненню ў жывапіс Ціхановіча вострага адчування часу, перспектывы святла і паветра.

У яго творчасці нам адкрываецца вялікі і прывабны свет.

Усе сакрэты Генрыха—у шчаслівай упэўненасці: жыццё — цудоўнае. Радасна знаёміцца з яго светлым мастацтвам, разумным, таленавітым.

**В. ХАДАНОВІЧ.**

# МУДРАЯ МАЛАДОСЦЬ ДУШЫ

ПРОСТА І ХОРАША назваў Пятрусь Броўка сваю новую кнігу — «Калі ласка». Быццам гасцінна запрасіў у хату, шырока расчыніўшы дзверы і дзверыва ўсміхнуўшыся з парога. А хата гэтая не толькі прыгожая (кніга выдадзена цудоўна, у арыгінальным афармленні Ул. і М. Басалыгаў), а і прасторная і ўтульная, дзе гаспадар за сваё немалое ўжо і слаўнае жыццё шмат перадумаў і давёў да ладу. Тут няма выпадковай драбязы, няма самазаспакоенасці і стомленага самалюбавання. Ёсць добрая сялянская заклапочанасць, ёсць юначая няўрымслівасць і яшчэ — мудрасць працаўніка.

Як амаль усе кнігі П. Броўкі, новая таксама радуе і нават здзіўляе шырынёй інтарэсаў аўтара, яго пільнай увагай да палітыкі, эканомікі, побыту, яго апантанай прагай месца да ўсяго дачыненне, на ўсё адгукацца шчырым словам. Нібы гарачы газетны разварот, яна зафіксавала ў пачуцці, у вобразах амаль усе галоўныя падзеі апошніх гадоў, стаўшы своеасаблівым публіцыстычным дакументам часу. Магчыма, пры гэтым непазбежнымі былі і паэтычныя выдаткі, але актыўнасць душы і радка не можа не выклікаць павагі і ўхвалы.

Кніга «Калі ласка» — шматпланавая. І я не бяруся ў гэтым кароткім слове даваць ацэнку ўсім яе якасцям, аналізаваць усе кірункі пошукаў і інтарэсаў нашага выдатнага паэта. Я хачу сказаць толькі пра некаторыя рысы гэтай кнігі, галоўныя і характэрныя, памойму, для ўсёй творчасці Петруся Броўкі апошняга перыяду, і асабліва блізкія і важныя для мяне як чытача, як літаратара.

З добрай зайздрасцю адзначаў я, гартаючы старонкі зборніка, пільнае вока і на дзіва канкрэтную памяць паэта. Нават у вершах адкрыта трыбунных, газетнага плана, дзе, здавалася б, сам жанр патрабуе вялікага абагульнення, адарванасці ад дробязі адзінкавага факта, мяне часта ўражвалі вельмі яркія і дакладныя дэталі побыту, псіхалогіі, якія своечасова «заземлялі» залішне агульную гаворку, зніtоўвалі прыватны лёс людзей з вялікім лёсам краіны. Хіба можна без поўнага даверу і добрай усмешкі чытаць такія радкі:

Навуку мы за жабры бралі,
Нас звалі парты,
Як дзятву,
Мы першы гальштук
надзявалі
Не ўмеючы, праз галаву.
(«Мая Савецкая Улада»).

Думаю, што такія вось непрыдуманыя прыкметы пэўнага часу, пэўнага пакалення, як гэты «першы гальштук», не толькі не зніжаюць сур'ёзнасці гаворкі, складанасці настрою, а надаюць ім большую чалавечнасць і жыццёвасць. А колькі іх, такіх «расінак», у якіх адбіваецца мора, раскідана па вершах «Конь сталёвы», «Яшчэ аб продках», «Першыя спектаклі», «Смачней было...»! Сабраўшы іх разам, у дадатак да дакладнага сацыяльнага і палітычнага партрэта 20—30-х гадоў, можна яшчэ акрэсліць і іх цікавы бытавы партрэт. І ўсё таму, што паэт захаваў свежае ўспрыняцце свету, пільную ўвагу да ўсіх яго бакоў.

Натуральнасць, нявыдуманасць пачуццяў часцей за ўсё крыніцы адзначаюць у аўтараў першых кніжак, баючыся нават пэўна сказаць, прыкмета гэта таленту ці проста якасць узросту. Думаю, што ў дачыненні да літаратараў сталага веку словы аб арганічнасці пачуцця — бясспрэчная пахвала і бясспрэчнае сведчанне таленту. Маладосць душы не можа вярнуцца да графаманаў, юнэчая непасрэднасць не гасціе ў душах стомленых і расчараваных. А «дзяцінная» чысціня, паядная са сталай мудрасцю і жыццёвым вопытам, — той шчаслівы сплаў, які звініць найдаражэйшай песняй.

У П. Броўкі ёсць у новай кнізе вершы, якія магла нарадзіць толькі мудрасць маладой душы, якія маглі «выліцца» толькі ў мінуты поўнай шчырасці і шчаслівага роздуму над жыццём.

Калі надыдзе час спачыну,
Адна ёсць просьба да
зямлі:
Накрый мяне крылом
арлінным,
Крыло галубкі пасцялі.
Абодвум з дзён маленства
босых
Зайздросціў я, як ні
кажы,—
Глядзеў услед арлу ў
нябёсах
Ды галубінай быў душы.
А ўсё ж калісьці, ў нейкім
ранні,
З праменнем першым па
расе
Не клёкат грозны—
вуркаванне
Няхай мне вецер прынясе.
(«Калі надыдзе час
спачыну...»)

Не веру, што знойдзецца чалавек, якога не кране гэты роздум, гэтае прызнанне, гэты запавет. Як не веру, што можна засумнявацца ў высокай паэзіі такіх радкоў:

Я ведаю, час прыйдзе
гэткі—
Усё прачнецца пры вясне,
Як матылі, успыхнуць
кветкі...
І нехта ўспомніць пра
мяне.

Аднойчы ўдзень, а можа
ўранку
Сыдуцца хмары чарадой,
Між чорных хмар бліснe
маланка..
І нехта ўспомніць воблік
мой.
(«І нехта ўспомніць пра
мяне»).

Як найлепшыя словы пра неўміручасць жыцця і людскі аптымізм гучаць для мяне гэтыя радкі:

Прайшло яшчэ не так
багата
З мае юначае пары,
А хтосьці, параўнаўшы
даты,
Рашыў сабе,
што я стары.
Дарма гады ён падлічае,
Мая душа—
яна не спіць,
Зялёным полымем шугае,
Чырвоным полымем
гарыць!
(«Зялёным полымем шугае...»)

Як пра усякія сапраўдныя вершы, пра іх цяжка гаварыць нешта глыбакадумна-крытычна — іх проста хочацца цытаваць. Бо яны і вельмі асабістыя, броўкавы і вельмі «усіхныя». У іх трапяткая думка паядналася з бяссонным пэчуццём — і слова нібы само сабою прыйшло замацаваць шчаслівы саюз. Элегічнасць гэтых радкоў ніколькі не шкодзіць іх аптымізму і спакойнай упэўненасці ў справядлівасці жыцця.

І ўсё ж нагаданыя вершы — больш з арсенала мудрасці. А я хачу абавязкова падкрэсліць маладосць тэмпераменту і светаадчування аўтара «Калі ласка». І зноў не буду галаслоўным, а адгарну старонкі:

Белым пухам сцелецца,
Кружыцца і пеніцца
На двары мяцеліца,
На душы мяцеліца.
(«Белым пухам сцелецца...»)

Рана ўздымуся,
Толькі як сонца
Зямлі дакранецца з самага
краю,—
Чырвань зары,
Чырвань зары
Заместа чарніла ўзяць я
жадаю.
(«Жаданне»).

Ой, зіма,
Зіма,
Зіма!
Весялей цябе
Няма!
Горка,
Санкі,
Гоман,
Смех.
Сіні вечар.
Белы снег.
(«Зімовыя малюнкі»).

Хіба не б'ецца тут прагна і ўладарна маладое пачуццё? Хіба па ўсёй сутнасці — нават чыста прэфесійнай — не клякоча тут маладосць? Я, напрыклад, не сумняваюся, што маладою рукой напісаны і «Дзень добры...», і «Восень», і «Ой, чалом, чалом...», і «Ты для мяне...» ...Столькі тут і жыццялюбства, і нявырымслівасці, і нават гарэзлівасці.

Я ўжо казаў, што «Калі ласка» — шматпланавая кніга, і даць ацэнку яе ўсёй — не мая задача. Гэта больш умела і грунтоўна зробяць крытыкі, якія, праўда, апошнім часам не спяшаюцца адгукацца на навінкі. Я ж не мог не парадавацца мудрай маладосці душы Петруся Броўкі, яго нястомнасці і надзвычайнай працавітасці, яго даверу да жыцця, зафіксаванага і асабістым вопытам і вопытам усёй Савецкай краіны, яго ўменню слухаць народнае слова і знаходзіць у ім паэзію. А радасцю абавязкова трэба дзяліцца. Вось я і падзяліўся ёю з усімі, хто любіць нашу паэзію.

**Генадзь БУРАЎКІН.**

Пятрусь Броўка. «Калі ласка». Вершы. Выдавецтва «Беларусь», 1972.

# НАВУКА, ДЗЕ НЯМА ДРОБЯЗЕЙ

КНІГА Р. ГУЛЬМАН «Тэксталогія твораў Янкі Купалы» — першая ў беларускім літаратуразнаўстве спроба тэарэтычна абагуліць яшчэ невялікі, але ўжо даволі важкі вопыт падрыхтоўкі да друку выданняў класікаў (у прыватнасці, Я. Купалы), паставіць і вырашыць некаторыя праблемы тэксталогіі.

Адразу ж трэба сказаць, што кніга напісана з добрым веданнем прадмета, цікава і «чытабельна», што ніколькі не зніжае яе навуковай вартасці. Кніга Р. Гульман можа ў пэўнай ступені служыць дапаможнікам для тых, хто працуе ў галіне тэксталогіі і непасрэдна займаецца выданнем твораў класікаў беларускай літаратуры.

Аўтар не толькі ставіць шэраг пытанняў, звязаных з выданнем спадчыны беларускіх пісьменнікаў, але і вызначае канкрэтныя шляхі вырашэння галоўнай задачы тэкстолага — устанаўлення аўтэнтычнага тэксту.

Адну заўвагу ўсё ж хочацца зрабіць тут жа наконт кампазіцыйнага размяшчэння матэрыялу. Паставіўшы спачатку раздзел «Выбар асноўнага тэксту», аўтар, на нашу думку, выходзіла з практычнага вопыту падрыхтоўкі тэкстаў да выдання, ідучы тым самым услед за маскоўскімі тэкстолагамі, у прыватнасці Я. Прохаравым. Але ў кнізе Я. Прохарава «Тэксталогія» (Масква, 1966) падобны раздзел называецца «Падрыхтоўка тэкстаў да выдання», што адразу арыентуе на этапную паслядоўнасць працы тэкстолага.

Улічваючы той факт, што тэарэтычна праблема ўстанаўлення кананічнага тэксту ўключае ў сябе і праблему выбару асноўнага тэксту, было б правільней, вызначыўшы галоўную праблему тэксталогіі, перайсці непасрэдна да падрабязных, калі можна так выказацца, гл. зн. да практычнага вырашэння тэх пытанняў. Гэта адразу ўнесла б яснасць і не выклікала б некаторага непаразумення з боку неспецыялістаў і нават спецыялістаў.

Не было б лішнім спыніцца на агульных тэксталагічных прынцыпах. Гэта ў сваю чаргу дапамагло б чытачу вызначыць узровень беларускай тэксталогіі і задачы, якія стаяць перад ёй.

У сувязі з гэтым хацелася б спыніцца яшчэ на адным вельмі важным пытанні.

Тэксталогія як галіна практычнай дзейнасці нарадзілася вельмі даўно. Але справа ў тым, што тэарэтычнае абагульненне і практычныя дасягненні былі, на жаль, раз'яднаны, не адпавядалі адно аднаму. Зразумела, для тэарэтычнага абагульнення трэба перш за ўсё набыць пэўны практычны вопыт. Таму, як слушна адзначае аўтар кнігі, заканамерным можа здацца адставанне тэарэтычнай распрацоўкі тэксталагічных пытанняў ад практыкі выданняў класічных твораў, якія, у сваю чаргу, не заўсёды даюць магчымасць зрабіць тэарэтычныя абагульненні.

Не будзем спыняцца тут на тым, што даўно наспела патрэба ў вырашэнні многіх агульных тэксталагічных пытанняў (навуковыя выданні Зм. Бядулі, М. Гарэцкага і інш.), бо адставанне ў галіне практычнай тэксталогіі безумоўна адаб'ецца і на ўзроўні літаратуразнаўчых даследаванняў. Несумненна, што толькі дзякуючы стараннаму вывучэнню чарнавых рукапісаў аўтара, архіўных матэрыялаў і правільнаму асэнсаванню аўтарскага тэксту ў адпаведнасці з ідэйна-мастацкай задумай аўтара можна вырашыць асноўную праблему тэксталогіі.

Р. Гульман зусім дакладна вызначае этапы складанай і вялікай работы на шляху да ачышчэння аўтарскага тэксту ад усіх памылак і недакладнасцей (царская цэнзура, механічныя і друкарскія памылкі, нядобрасумленныя адносіны рэдактара да тэксту і г. д.). Асабліва цікавы ў гэтых адносінах раздзел аб механічных памылках, які змяшчае вельмі багаты фактычны матэрыял.

Даць чытачу сапраўдны, найбольш дакладны тэкст— значыць зрабіць першы і разумны крок да правільнага разумення ідэйна-мастацкай задумы твора.

Аб усім гэтым пераканаўча расказвае даследчыца ў раздзеле «Выбар асноўнага тэксту». Не выклікае пярэчання грунтоўна аргументаванае адступленне ад асноўнага правіла тэксталогіі (за асноўны тэкст бярэцца апошняе прыжыццёвае выданне аўтара). Старанна вывучыўшы матэрыял, даследчык прыйшоў да вываду, што ў якасці асноўнага тэксту для навуковага выдання трэба ўзяць першы збор твораў Я. Купалы ў шасці тамах 1925—1932 гг. Гэтым прынцыпам і кіраваліся тэкстолагі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР пры падрыхтоўцы да выдання Збору твораў Я. Купалы ў сямі тамах, першы том якога ўжо выйшаў з друку.

Хочацца, праўда, адзначыць, што не ўсё і тут вырашана, у прыватнасці, гэта адносіцца да зборніка «Шляхам жыцця». Рукапісны зборнік, некалькі карэктур першага выдання (Пецярбург, 1913) і друкаваны экземпляр выдання 1923 года з праўкамі аўтара (захоўваюцца ў музеі Янкі Купалы) патрабуюць строга індывідуальнага падыходу ў выбары асноўнага тэксту для кожнага верша.

У гэтым не трэба бачыць недахопу работы. Кожнае даследаванне адлюстроўвае пэўны этап навуковых дасягненняў. Р. Гульман падагульняе вопыт падрыхтоўкі папярэдніх выданняў. Але бясспрэчна, што юбілейнае выданне Я. Купалы ў сямі тамах з'явіцца новым крокам на шляху да вырашэння вельмі многіх і практычных пытанняў тэксталогіі. Нявырашаныя праблемы будуць чакаць сваіх даследчыкаў.

Некалькі заўваг можна зрабіць па раздзеле «Паэт і царская цэнзура». Не зусім пераканаўчыя, а часам суб'ектыўныя тлумачэнні прыкладаў з тэксту, дзе аўтар даказвае, што змены ў вершах тлумачацца толькі цэнзурнымі, а не іншымі меркаваннямі. Прывядзём прыклад з верша «Памяці С. Палуяна»:

У друкаваным тэксце:

**Няшчасны край!... Чым быў,**
**чым стаў, чым будзеш ты**
**З сваім ВЕК СТОГНУЧЫМ**
**народам?**
**Як нёс —нясеш ярмо упадку,**
**слепаты**
**І змен чакаеш год**
**за годам.**

У машынапіснай копіі падкрэслены радок чытаецца:

**З сваім ПРЫДАУЛЕНЫМ**
**народам?**

Аўтар кнігі тлумачыць гэту змену аўтацэнзурай. На нашу думку, тут хутчэй імкненне паэта па-мастацку ўдасканаліць твор. Другі варыянт гучыць больш паэтычна, што не супярэчыць, а хутчэй пацвярджае пошукі рамантычных форм Я. Купалы ў гэты час.

Можна пагадзіцца з М. Ярошам, які ў сваёй рэцэнзіі на кнігу Р. Гульман («Полымя» № 4, 1972 г.) піша, што «аўтарскія змены выклікаліся не ў апошнюю чаргу задачамі творчага парадку».

У тых выпадках, дзе змены ў тэкстах не выклікаюць сумнення ў іх цэнзурным паходжанні, тэкстолагі павінны смялей вырашаць тыя пытанні на шляху ачышчэння тэкстаў ад усіх пашкоджанняў рознага характару. У гэтай думцы зацвярджае нас аўтар кнігі, правёўшы велізарную работу па вывучэнні чарнавых і чыставых аўтографаў, карэктурных зборнікаў і г. д. Настала пара поўнасцю адмовіцца ад недаацэнкі тэксталагічнай работы. Да такога вываду прыйдзе кожны, хто прачытае гэтую кнігу.

**Э. ЗОЛАВА.**

Р. І. Гульман. «Тэксталогія твораў Янкі Купалы. Пытанні вызначэння аўтэнтычнага тэксту». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1971.



Алесь ЖУК



АПАВЯДАННЕ

# БЕЛЫ МЕСЯЦ

НАЧАМІ, у вецер, рыпела аканіца—нудна, аднастайна, над самаю галавою. І тады не было сну. Прыходзілі думкі пра старога, які сабраўся і пайшоў некуды з горада. Яна здагадалася, куды пайшоў: у лес, бо ўсё шнырыў перад гэтым немаведама дзе, вадзіў да сябе незнаёмых ёй людзей, падоўгу шаптаўся з імі, а ноччу соваў пад падушку маленькі бліскучы пісталет. Ён і пры паляках усё гэтак жа збродаваў, і спаў са зброяй, а потым уцёк у лес.

Наказваў, калі адыходзіў, каб сядзела ціха, глядзела дачку, пакуль ён не акажацца, і на яе запытанне, што надалей будзе, адказаў:

— Усяго будзе. І мýка будзе, а перамелецца—мукá будзе. Вы тут не бойцеся: я не парціец, і да вас чапляцца не будуць.

Пайшоў—і як у ваду кануў. Няма нават каму прыбіць зашчапку на аканіцы. Хоць бы Вася быў дома... Успомніўся зяць са сваёй вечнаю ўсмешкаю да вушэй і бясконцымі жартачкамі, ўсё адно, як толькі і жыў, каб штукарыць, успомнілася, як яна скоса паглядвала на яго, нават нашэптвала Яні, каб троха прабрала. А цяпер пякло сэрца — такі па-дзіцячаму худы, тонкі і вастраносы, з вялікімі сінімі вачыма і астрыжанаю, белаю, як бручка, галавою быў ён перад адпраўкаю на фронт. І ўсё гэтак жа жартаваў, толькі вочы былі балючыя і глыбокія.

Забрала мужчын вайна, закруціла, як вір. І ні чуткі, ні дзейкі. А ім жа жыць бы яшчэ!..

За дашчанаю перагародкаю заварочалася, загаманіла спрасонку дачка. Школу зачынілі, і Яня нікуды не выходзіла з дому — баялася немцаў; цэлыя дні ляжала на ложку, чытала, або ўставала, доўга расчэсвала перад люстэркам валасы, даставала з шафы сукенкі, надзявала іх па чарзе, мерала туфлі. І ўсё маўчком, а калі загаворыш да яе, злуе, нібы яна, маці, вінавата. Можа і сасніла Яня Васю, хоць ні пра бацьку, ні пра мужа не ўспамінала, а вечарам, як уздумае, заве варажыць на картах,— старая амаль штовечар раскладвае карты і варожыць на Васю, на старога... Ёй шкада дачкі, цяжка глядзець, як яна, маладая і здаровая, сядзіць днямі, як у цямніцы. Замуж Яня выйшла пазнавата, пажыла з Васем мала больш году — і ці лёгка мацеры глядзець на такое? Хапіла з яе на вяку і «царскае» вайны, і польскай. Хоць бы ўжо закрыліся вочы, каб не бачыць нічога! Каб толькі стары аб'явіўся, забраў Яню...

Яня заціхла, і зноў было чуваць толькі, як парыпвае аканіца.

Прачыналася старая досвіткам, запальвала на кухні лямпу. У хаце, вышастанай за ноч ветрам, было холадна, як у лядоўні.

Ціха, каб не будзіць дачку, старая клала ў печ дровы, — добра, што стары назапасіў. Печ, недагледжаная на зіму, пакуль угравалася, дымела, і ў старое пачыналі слязіцца вочы. Яна кашляла, выцірала вочы ражком хусцінкі і выходзіла на двор.

Каб не стаяць бесталку, брала зробленую з фанеры шырокую лапату, расчышчала снег спачатку на двары, потым на вуліцы ля свае хаты, як і яе суседка Гэлька,—цяпер ніхто не прымушаў ачышчаць «тратувар», ды ніхто амаль і не хадзіў завулкам. Як і раней, суседкі віталіся, але размова не ладзілася: старэйшы Гэльчын да вайны рабіў у райкоме, а цяпер пайшла чутка, што ён хаваецца ў горадзе і разам з сябрамі забівае нямецкіх салдат. Гэлька неяк змарнела, сагнулася — усё спяшалася ў хату з вуліцы — у яе застаўся ўнук, і яна баялася за яго. А да вайны Гэлька часта прыходзіла гуляць да старое і яшчэ з парога гучна пыталася, расцягваючы словы:

— Андрэйчыха дома?

Старая вярталася ў хату, грэла на агні застылыя рукі і садзілася абіраць бульбу. Нібы чула яе сэрца, што неспакойна будзе, — увесь агарод бульбаю засадзіла, толькі градку на капусту і буракі пакінула. Не было б цяпер за што і зуб зашчаміць. А так і бульба ёсць, і капуста падкісла, і буракоў можна зварыць, яблыкі сушаныя на ўзвар ёсць. Наабірала яшчэ яблык, а на той год невядома ці ўродзіць — пакалечыла яблыню бомбаю, галіну вялікую адламала, і сама бомба не ўзарвалася — сядзіць, убіўшыся ў карэнне.

Мыла бульбу старая ў эмаліраванай місцы, у якой праз дзірачку ў беражку быў працягнуты раменьчык з вузельчыкам на канцы і дзірачкаю на другім — каб вешаць на цвік. Гэта яшчэ стары вымудраваў. Ён і кацялок салдацкі прыдбаў, у які яна накладвала бульбу і ашчадна цянціла соллю.

Старая чула, як варочалася на ложку дачка, потым было чуваць, як яна тупала, падбівала падушку.

— Маці, а маці! Хоць аканіцу адчыні, а то як у труне. І копціш яшчэ!

Старая тупала на двор, старалася ступаць у ранейшыя сляды, зробленыя ёю паўз сцены, але снег усё роўна засыпаўся ва ўссунутыя набасанож валёнкі і прыпякаў пяты.

Снеданне старая прыносіла ў свой пакой. Бульбу так і не выкідала з кацялка, каб не астывала. Да бульбы звычайна быў качанчык капусты з расолам; калі ўжо неўмагату была капуста — і кіслая, і вараная, і параная, — старая варыла буракі, — хоць нішчымныя, але, калі выстынуць, з бульбаю добра.

— Ідзі, Яня, снедаць! — паклікала старая дачку, абдзіраючы лісцікі з качана. Ад капусты ў яе смылелі дзясны, і яна толькі паспрабавала есці— не змагла, нацадзіла ў кубак расолу.—Ідзі, а то выстыне! — зноў паклікала яна.

— Іду, іду! Чаго ты...

Яня прыйшла не ў халаціку, як звычайна, а ў плацці, у туфлях.

— Чаго ты так вытрашчылася? — задзірыста запыталася яна ў старое.

— Так. Куды ты выбралася?

— А мне мо тут з табою гніць? Што я, горшая?..

Яня прысела за стол, узяла бульбіну і ўпусціла.

— Равеш і равеш! Выстыць не дала. Але што самой у галаў стукне—тое і ты рабі! Зямлёю пахне, а ўсё нешта плужыцца.

У старое навярнуліся слёзы, і яна хуценька пашоргала на кухню, там змахнула ручніком слёзы, узяла каструлю з узварам — нібы па яе толькі і хадзіла. Але есці больш не хацелася, і яна вярнулася на кухню, пачала выціраць анучкаю стол, потым мыць падлогу — каб толькі нічога не думаць, каб забавіцца. І ўсё ж прыслухоўвалася, як Яня рыпела дзверцамі шафы, некуды збіралася. Стала неспакойна на душы, забылася крыўда.

— Куды ж гэта ты?

— Пайду на горад. Ты лепш са стала прыбяры!

— Прыбяру... Холадна ў туфельках, зіма...— толькі і сказала яна, нібы і праўда гэта было галоўным, і толькі калі стукнулі дзверы, старая памкнулася выбегчы, закрычаць, вярнуць дачку дадому, насварыцца, набіць, як некалі малую... Ды было позна, і яна толькі квола дайшла да ложка і нязграбна апусцілася на яго.

Сядзела доўга, і калі спахапілася, што не зачыніла ўюшку, не магла разагнуцца — так адзеравянела спіна.

Уюшка была высока, і старая, як заўсёды, палезла на разгойданаю табурэтку, але тая неўспадзеўкі хістанулася, і старая ўпала, стукнулася грудзьмі аб рог стала.

— От каб на цябе!—выдыхнула яна і змоўкла — ад вострага болю перахапіла дых. Да ложка ішла, прытрымліваючыся за сценку. І ўжо як адляжалася, прыбрала са стала, зачыніла ўюшку.

Дачкі не было. Старая выйшла на двор, прачыніла дзверы ў хляўчук, паправіла лахманы на дзверцах у пограб, прайшла па двары, выткнулася ў варотцы, паглядзела ў два бакі: было пуста і мёртва, і толькі на бярозе праз вуліцу, агінаючы тонкую вяршаліну, пагойдавалася варона, выцягваючы шыю, паглядала ўніз і неўспадзеўкі хрыпла каркнула і залопала крыламі, каб утрымацца. Старая сцепанулася ад нечаканасці, перахрысцілася, заспяшалася ў хату, але ад дзвярэй павярнула і затупала зноў на вуліцу — да суседкі.

Дзверы былі замкнёны з сярэдзіны. Старая пастукала, потым яшчэ раз пастукала — і толькі тады пачула, што нехта выйшаў у калідор.

— Адчыні, Гэлька! — абазвалася старая.

— Ты, Андрэйчыха?

— Ага.

Гэлька доўга марудзіла, пакуль адамкнула дзверы, і, як толькі зайшла старая, зноў загрукала завалаю.

— А дзе ж гэта твой сабака, Гэлька?

— Немцы ж застрэлілі. Забраць хацелі. Ахвіцэр іхні ўпадабаў быў. А Рэкс яго за нагу як уцяў! Дык ён яму з нагана ў лоб. А Рэкс і зубоў не расшчапіў. Ледзьве яны яму вінтоўкаю развялі, — расказвала Гэлька, ідучы ўслед. — Садзіся. У цябе не такая халадэча?

У шафе заварушылася, азваўся дзіцячы голас:

— Адчыні, бабка! Душна.

Гэлька дрыжачымі рукамі ніяк не магла ўставіць у замок ключык з чырвонаю стужачкаю.

Хлопчык выкаціўся з шафы чырвоны і адразу ж прыкрыў рукою вочы, хоць у пакоі быў паўзмрок—адчыняла Гэлька толькі адну палавіну аканіцы таго акна, што на двор.

— Нашто ты яго гэтак мучыш, Гэля?

— Ведаеш жа, якія пра Сяргея чуткі пайшлі? А дзіця ж ні ў чым не павінна! Я тут над ім, як асінка калачуся!..

Гэлька ўсхліпнула.

— Не трэба, бабка. Татка прыйдзе і ўсіх немцаў прагоніць! — суцешыў яе хлапчук, узлез на ложак і адтуль сур'ёзна і лупаценька паглядаў на старых.

— І мая ж некуды сёння сышла, а ў мяне за яе сэрца млее!..

— А я ўсё думаю, каб мой хоць дадому не надумаўся. Яшчэ выцікуюць. Мне то ўжо ўсё адно— зямля зямлёю. А яно, дзіцятка... Як усё ведае! Глядзіць во гэтак на мяне лупаценькімі вочкамі, а як хто грукне — са скуры лужыцца схавацца. А чаго ж тваю пагнала?

— Хай яе бог сцеражэ! Сядзела дасюль, нікуды не выходзіла — і як адурылася. Усё вечарамі, бывае, варажыць просіць. Я і гавару, ёй, каб лепш. Суцешыцца троха. А то ўсё агрызаецца, як я ёй ураг які. Пайшла сёння, а я месца не найду! І так ужо ледзьве ногі цягаю, не магу нічога. То ўпаду, то стукнуся... Хай яно спрахне ўсё!

— Адна яна ў вас. Прывыкла толькі пра сябе думаць, а цяпер гэтак нельга, цяпер талакою трэба... І я, мая галубка, сяджу і думаю: няўжэ гэта германец тут будзе? Сіла ж гэтакая, здэцца, у бальшавікоў была... Але яны заўзёнтыя, не папусцяцца. І людзі глуму цярпець не будуць!

— І я думала, Гэлька, як Вася пайшоў, а цяпер і стары. Усю ноч не магла заснуць, а пад раніцу толькі вочы звяла — і сню, што іду я яшчэ дзеўкаю ў Баслаўцы маліцца. Хораша так, зялёненька. І вярбу ў руцэ нясу быццам на вербную нядзельку гэта. Думаю, пасвянцю вярбу і ўсім-усім па дубчыку раздам. Падыходжу к цэркві, а кругом — ні жывое душы! І дзверы ў цэркаў адчынены насцеж! Заходжу: над царскімі варотамі кошык вісіць з саломаю. А ў кошыку чорная кура на яйках, і галаў крывіць — на мяне глядзіць. А для кошыка ікона Багародзіцы вісіць. Маленькая, залаценькая ўся. І як зайшла я, гляджу — ікона памаленьку гэтак паварочваецца, паварочваецца! Страшна мне стала. «Няўжэ, — думаю, — павернецца?» Адале кура як залапоча, як закудахча ў мяне над галавою! Я аж утрупянела спуду. А кошык з ячкамі адарваўся

(Заканчэнне на 12-й стар.)



У ВАКОЛІЦАХ САЛІГОРСКА.
Фота Ул. КРУКА.

тарам удалося знайсці тую раўнавагу паміж скульптурнымі і архітэктурнымі элементамі помніка, якая стварае адзінае эмацыянальнае ўздзеянне на гледача. Помнік добра чытаецца на адлегласці. Яго змест глыбока раскрываецца пры разгляданні зблізку. Скульптурная частка комплексу — група ўзброеных людзей. Яна размешчана ў адносінах да вёскі так, што глядач успрымае ўпэўнены поступ фігур як поступ тых, што ідуць з вёскі на змаганне з ворагам. Глядач адчувае адзінства, згуртаванасць, рашучасць барацьбітоў. Архітэктурная ж частка комплексу— фрыз з імёнамі жыхароў вёскі, што аддалі жыццё за Радзіму, — дапаўняе скульптурную групу выразным сілуэтам.



Несумненна, многае з вопыту работы над гэтым мемарыялам было для Анікейчыка добрай школай перад тым, як ён разам з Л. Асядоўскім і А. Заспіцкім стаў працаваць над помнікам Янку Купалу...

Як мастак, Анікейчык — пастаянна ў разнастайных творчых пошуках. У яго, бадай, мацней, чым у аднагодкаў, відаць уплывы розных тэндэнцый, што ўзнікаюць у савецкай скульптуры. Гэта несумненная прыкмета мастакоўскай чуласці скульптара. Праўда, часам яна выглядае як некрытычнае ўспрыняцце з'яў часовых. Так, напрыклад, станковая пластыка Анікейчыка часам мае налёт салоннасці («Жаночая галава», «Партрэт дзяўчыны»), а іншы раз — стылізатарства («Папараць-кветка»). Работы гэтыя нясуць у сабе думку мастака. Яны сведчаць пра тонкае разуменне ім сродкаў і матэрыялаў, якімі валодае скульптура. Яны прыцягваюць дэкаратыўнай эфектнасцю. У іх — вытанчаная кампазіцыя. Але не-не, ды і адчувальныя тут ноткі гэткай халоднай адцягненасці, пераважанне рацыянальнага над эмацыянальным.

Здараецца, што, празмерна захапляючыся выяўленнем чыста знешніх асаблівасцей мадэлі (няхай нават вельмі цікавых), Анікейчык недастаткова глыбока вырашае вобраз. Так, «Партрэт Б. Вішкарова» ён ляпіў па памяці. Абмежаваўся адным «кантрольным» сеансам работы з мадэллю.

Пра гэтую работу сам Анікейчык кажа:

— Не трэба, канечне, думаць, што, працуючы над партрэтам, я па загадзя падрыхтаванай схеме «канструяваў» вобраз. У аснове партрэта заставалася канкрэтная асоба, канкрэтныя аблічча і характар жывога чалавека, індывідуальныя рысы якога я стараўся некалькі змякчыць і абагуліць. Падабенства з Вішкаровым я захаваў у той меры, якая неабходна ўсё ж для перадачы вобраза канкрэтнага чалавека...

Што і казаць, эксперымент — няпросты!.. Але ўсё ж замест жаданага выніку атрымалася досыцьтакі павярхоўнае рашэнне вобраза. Удалося перадаць толькі самыя агульныя ўяўленні аб персанажы партрэта.

Анікейчык найбольш паслядоўны ў «гістарычных» партрэтах. Інтэлектуальнае і эмацыянальнае багацце, унутраную цэльнасць і значнасць ён упэўнена перадае ў вобразах людзей мінулага: Бетховен, Дзяржынскі, Мяснікоў, Маякоўскі, Фрунзе, Матросаў... Калі глядзіш гэтую галерэю створаных скульптарам вобразаў — сапраўды пераконваешся ў строгасці і стараннасці, з якой ён падыходзіць да выбару сваіх герояў, з якой ён іх характарызуе.

Сярод мастакоў сучаснасці, творчасць якіх вельмі хвалюе Анікейчыка, — Сікейрас. Гэты вялікі мексіканец у манументальным жывапісе вырашае многія з задач, якімі заняты і скульптары-манументалісты. Распрацаваная Сікейрасам складаная сістэма перспектыўнай пабудовы кампазіцый, здольных выклікаць багатыя вобразныя асацыяцыі пры разгляданні іх з розных пунктаў, — прадмет уважлівага вывучэння і жывапісцаў, і скульптараў.

У шчырым захапленні Анікейчыка Сікейрасам улоўліваецца сэнс многіх пачынанняў скульптара. Новымі, няпростымі пошукамі сродкаў выразнасці прасякнуты ў майстэрні Анікейчыка праекты помнікаў ахвярам Курлоўскага расстрэлу, барацьбітам за Савецкую ўладу на Магілёўшчыне і некаторыя станковыя кампазіцыі, яшчэ не паказаныя на выстаўках.

Так, многа складанай работы ў Анатоля Анікейчыка наперадзе.

**Сяргей ПЕТЭРСОН.**

З пошты ЛіМ-а

# ПАТРЭБЕН ЖЫВЫ, НЕПАСРЭДНЫ РОЗДУМ

З 1967 г. Беларускае тэлебачанне выпускае тэлевізійны альманах «У свеце слоў, вобразаў, фарбаў». Асобныя старонкі ў ім прысвечаны выяўленчаму мастацтву.

Натуральна, у агульным тэлеальманаху нельга ўсебакова асвятліць выяўленчае мастацтва рэспублікі. Тут задача— больш вузкая: выбраць характэрнае ў мастацкім жыцці і паінфармаваць гледача. Не, мы зусім не хочам сказаць, быццам на тэлебачанні мала робіцца для прапаганды нашага выяўленчага мастацтва. Робіцца шмат. Але ёсць яшчэ і нескарыстаныя рэзервы для больш паспяховага вырашэння высакароднай задачы эстэтычнага выхавання гледачоў.

Тэлеперадачы не ахопліваюць усіх выставак у рэспубліцы, абмежаваны яны па відах і жанрах, большасць з іх прыўрочваецца да тых ці іншых юбілеяў і гадавін — мабыць, таму абмежавана і сама гаворка пра мастацтва.

Праўда, апрача памянёных пастаянных старонак у тэлеальманаху «У свеце слоў, вобразаў, фарбаў», ёсць яшчэ перадачы пад рубрыкамі «У свеце мастацтва», «Майстры мастацтва», «Па музеях і выставачных залах». Адно толькі прымушае задумвацца: чаму сюжэты, прысвечаныя выяўленчаму мастацтву, так часта падобныя адзін да аднаго, хоць і падаюцца пад рознымі рубрыкамі.

Прычыны такога становішча — розныя.

Па-першае, пажадана, каб гаворку аб выяўленчым мастацтве вёў дасведчаны каментатар.

Па-другое, вельмі важна, каб разнастаіліся прыёмы інтэрпрэтацыі твораў выяўленчага мастацтва на тэлеэкране. Так, нельга не ўлічваць, што графіка патрабуе інакшых спосабаў паказу, чым жывапіс, а скульптура — інакшых, чым дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. На практыцы ж творы любога віду мастацтва аднолькава пераносяцца на фотаплёнку, а пасля ў фотарэпрадукцыі трапляюць на тэлеэкран. Аб'ектыў тэлеаператара не «разглядае» твор мастацтва, а механічна перадае фотарэпрадукцыю. Куды цікавей перадачы непасрэдна з выставак, калі тэлеаператар «чытае» твор...

Наспеў час на нашым тэлебачанні дамагацца такой гаворкі пра выяўленчае мастацтва, такога паказу твораў, каб глядач адчуваў бы ўнутраны рух твора, яго ўнутраны сэнс. Для гэтага трэба, каб і аўтар сцэнарыя, і рэжысёр, і аператар разам адкрывалі шляхі, па якіх развівалася задума мастака. Пакуль што пераважаюць перадачы, створаныя па самай няхітрай схеме: твор — каментарый да яго. Далёка не цалкам скарыстоўваюцца вялікія магчымасці тэлебачання для трактоўкі твораў.

Прыгадваецца перадача мінулага года пра Мікалая Ге, характэрная па форме для нашага тэлебачання: фотарэпрадукцыі — закадравы тэкст. І нават тое, што тэкст, які гучаў за кадрам, напісаў кваліфікаваны мастацтвазнаўца, не ўратавала перадачу.

Лепшай была перадача пра К. Касмачова. У кадры таксама былі фотарэпрадукцыі. Але каментарый да іх замяніў голас самога мастака ў магнітафонным запісе. Пра творчасць калегі ўсхвалявана расказаў жывапісец В. Грамыка. Ужо нават такія вельмі простыя прыёмы ўзбагацілі перадачу — яна запомнілася.

Перадачы пра М. Савіцкага, Л. Рана, А. Бембеля, С. Каткова... Удача спатыкала аўтараў тады, калі яны паказвалі творы мастацтва з улікам таго, што тэлеэкран пры гаворцы пра выяўленчае мастацтва бывае не толькі абмежаваны (напрыклад, пры перадачы каларыту), але і літаральна ўсемагутны (напрыклад, здольнасць «узбуйніць» дэталі, акцэнтаваць тое, што часам праходзіць міма ўвагі гледача ў выставачнай зале).

Сёння на тэлебачанні пры гаворцы аб выяўленчым мастацтве скарыстоўваюцца рэпартаж, нарыс, агляд. Але спосабы паказу твораў амаль аднолькавыя. У выніку, бывае, рэпартаж нічым не адрозніваецца ад нарыса, перадача з выстаўкі ад перадачы з майстэрні.

І яшчэ: пра тэматыку перадач. Няма добра прадуманых і паслядоўных перадач па гісторыі выяўленчага мастацтва Беларусі. Няма перадач, прысвечаных асобным, найбольш значным творам савецкага выяўленчага мастацтва (гісторыі стварэння асобных карцін, графічных цыклаў). Змястоўнай магла б атрымацца гаворка пра скарбы перыферыйных музеяў. Варта прадумаць перадачы, у якіх быў бы паказаны сам працэс творчасці мастака — ад першай задумы ў першым эскізе да экспазіцыі гатовага твора на выстаўцы. Адсутнічаюць перадачы пра тое, як разумець мастацтва (гэта мог бы таксама быць спецыяльны цыкл).

Відаць, наспела неабходнасць, каб на тэлебачанні была створана рэдакцыя, якая грунтоўна займалася б усімі кірункамі развіцця беларускага савецкага выяўленчага мастацтва. Першым крокам на гэтым шляху мог бы стаць спецыяльны тэлевізійны часопіс «Выяўленчае мастацтва Беларусі». **Асобны** тэлечасопіс з дакладнымі каардынатамі выхаду — вызначаны дзень і час. Такі часопіс даў бы магчымасць грунтоўней вырашаць многія праблемы, звязаныя з прапагандай выяўленчага мастацтва. А іх, гэтых праблем, куды больш, чым тут названа.

**Зоя ЛАТУН,**
**журналістка.**

нагою там!..

Цяпер было ўсё. У вачах зноў застракацелі чорныя плямы. І старая пайшла, як у тумане, і ў сваім пакоі не змагла нават патушыць лямпу — не хапіла сілы дзьмухнуць зверху ў закуранае шкло..

Назаўтра прачнулася позна. Ледзьве змагла падняцца з ложка і пашамала ў даччын пакой. На стале ляжалі пахучыя агрызкі хлеба, дзверы шафы былі адчынены. Яня зноў пайшла.

Як у сне, хадзіла яна ў хлеў па дровы, абдзірала бярозавую кару на падпал, абірала бульбу, пакуль з носа не хлынула кроў — на рукі, на бульбу. Сяк-так дабралася да ложка.

Ляжаць было прыемна, млява думалася, што выгарыць у печы, што прапала бульба... Як толькі гэта і быў самы клопат.

... Здавалася, ляжыць яна даўно — немаведама колькі часу, колькі дзён і начэй. Ляжыць пад коўдраю ў плюшаўцы, у валёнках, І не ўстае паліць у печы, нічога не есць, — ад думкі пра ежу нешта соладка пераварочваецца пад грудзьмі, і яна чуе, як пахне з даччынога пакоя хлеб... А Яні так і няма, не прыходзіць. Толькі ноччу чутно, як нехта асцярожна стукае ў дзверы, ходзіць паладвоканню, зазірае праз вокны ў хату, а потым заходзіць і ў сенцы, абівае венікам снег з ног, узлазіць на вышкі і ходзіць туды-сюды па столі, і ў яго пад нагамі прагінаюцца дошкі, і сыплецца на падлогу пясок. А сёння ноччу ён папускае па даху гарохам, і той бубніць, коцячыся долу. Нашто яму дражніць яе? Лепш бы з'еў гэты гарох,чым раскідаць. Неўспадзеўкі стала ціха, і было выразна чуваць, як адчыніліся дзверы ў калідоры і хтосьці лёгенька затупаў па падлозе. І старую апякла нечаканая думка: гэта ж Яня прыходзіць штоноч дадому і не адважваецца зайсці ў хату!

Са слязамі на вачах, паўз сценку, старая як магла пабралася ў сенцы і слабым голасам паклікала:

— Янечка, дачухна!

— Гэта я, бабка, Алежка. У нас немцы, і бабка сказала, каб я ў вас схаваўся.

— А я ж думала...

— Дзе мне схавацца? У шафу?

— Ды не, пад ложак, пад ложак!

Старая слаба падштурхнула малога ў хату, а сама прыадчыніла дзверы і глядзела, як вакол Гэльчынай хаты мітусіліся, бегалі людзі, а потым ля вуглоў зырка затрымцела полымя. А па двары, па маленькіх, як мышыная сцежачка, Алежкавых слядах грэбліся две нізенькія, тоўстыя постаці. І думка, што яны ідуць па дзіця, схамянула яе, абудзіла. І з адным неадольным упартым жаданнем — не аддаць! — яна зачыніла дзверы, прыціснулася да іх плячыма. Першы салдат напаўсілы грукнуў ботам у дзверы, і яна не стрывала, застагнала ад болю, які працяў усё яе збалелае цела, але ўтрымалася і з апошніх сіл прыціснулася да дзвярэй. І яна ўжо не чула кароткае аўтаматнае чаргі, і ёй не здалося, што сыпанулі гарохам па даху. Яна мякка асела на падлогу паўз дзверы. Салдат прыадчыніў дзверы, пасвяціў ліхтарыкам і жахнуўся: схуднелы, счарнелы твар глядзеў на яго вялікімі страшнымі вачыма нянавісці, глядзеў скрозь растрапаныя сівыя валасы, па адной пасмачцы якіх чырвона сцякала на падлогу кроў.

— О, мой бог! — салдат адступіў назад і хутка, як наўцёкі, пакрочыў па двары так, што яго напарнік ледзь паспяваў следам.



Паважаная рэдакцыя!

Зараз наш Гомельскі тэатр гастралюе па раёнах вобласці. У Петрыкаве вялікае ўражанне на нас зрабіў помнік дэсантнікам бронекатэраў Дняпроўскай флатыліі — воінам 55-й стралковай Мазырскай дывізіі, што вызвалялі горад у чэрвені 1944 года. Мы ўсклалі да яго вянкі, і на ўспамін аб гэтым я зрабіў здымак.

**П. ФІЛІПАЎ,**
заслужаны артыст БССР.

ЯШЧЭ РАЗ АБ ПРАВАПІСЕ

# НЕАБХОДНА

У АРТЫКУЛЕ «Некаторыя заўвагі аб мове» М. Лобан калісьці пісаў: «Веданне мовы не абмяжоўваецца простай пісьменнасцю, уменнем паводле школьнай граматыкі ставіць словы ў адпаведных склонах, асобах альбо ліку, правільна дапасоўваць словы ў сказе. Веданне мовы выходзіць далёка за межы гэтых элементарных школьных патрабаванняў». Так, з гэтым нельга не пагадзіцца. Але нельга сабе ўявіць, каб чалавек ведаў мову без гэтых «элементарных школьных патрабаванняў». Пра малапісьменнага чалавека наўрад ці хто-небудзь адважыцца сказаць, што ён ведае мову. Пісьменнасці, любві і пашане да роднай мовы вучняў навучае настаўнік-славеснік. Дасягнуць высокіх поспехаў у сваёй рабоце яму вельмі нялёгка. А калі яшчэ да ўсяго няма адзіных правілаў правапісу, то пра высокі ўзровень пісьменнасці думаць не даводзіцца.

Вось выйшла з друку новае выданне «Арфаграфічнага слоўніка» М. Лобана і М. Судніка, адрасаванага сярэдняй школе. Дапаможнік узрадаваў настаўнікаў беларускай мовы, абяцаючы канец разнабою ў правапісе. Але радасць была заўчаснай. Пазнаёміўшыся бліжэй са слоўнікам, мы ўбачылі, што з'явіліся ў ім новыя правілы, супрацьлеглыя тым, якія запісаны ў школьным падручніку. У «Беларускай мове» для 5—6 класаў М. Яўневіча і У. Андрэенкі чытаем, напрыклад, што назоўнікі другога скланення, якія абазначаюць асобу чалавека, у месным склоне пры любой аснове маюць канчатак — **у (ю)**: пры камандзіру, аб сыну, аб таварышу, аб хлопцу, аб герою, аб госцю. Такое ж правіла зарэгістравана і акадэмічнай граматыкай. Там сказана, што канчатак — **у (ю)** у месным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду маюць агульныя асабовыя назоўнікі незалежна ад характару асноў, напрыклад: аб (пры) брату, сыну, трактарысту, паэту, мужу, байцу, кавалю, салдату. Там жа чытаем заўвагу, што ўжыванне канчатка — **е** ў агульных асабовых назоўніках з цвёрдай асновай не лічыцца сучаснай літаратурнай нормай (па сыне, аб браце). У новым жа слоўніку сказана, што назоўнікі другога скланення мужчынскага роду з цвёрдай асновай, што абазначаюць асобу чалавека, у месным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак — **е**: аб партызане, аб браце. Гэта ўжо новае і незразумела чым прадыктаванае правіла.

Вельмі цяжка засвоіць, асабліва вучням 5—6 класаў, правапіс канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку другога скланення ў родным склоне. Тут трэба разбірацца ў складаных асаблівасцях семантыкі слова, а гэта не заўсёды вучням пад сілу. Праўда, у школьным падручніку называецца шэраг выпадкаў, пры якіх трэба пісаць — **а** або — **у**. Калі ж вучань піша, напрыклад, дыктоўку, яму вельмі цяжка сарыентавацца, каб «падагнаць» пад той ці іншы выпадак назоўнік (ці гэта канкрэтны, ці абстрактны, ці зборны, ці яшчэ ён што абазначае). Цяжкавата адразу вырашыць, чаму трэба пісаць прэзідыум**а**, але кансіліуму. Падчас нават сталыя, адукаваныя людзі блытаюцца ў гэтым. **«Архіву»** чытаем мы часта ў газетах. У слоўніку ж — **архіва**. Чаму прэзідыум, кангрэс, урад, архіў пішуцца ў родным склоне з **«а»**, а кансіліум—з **«у»**? А чатыры словы (камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм), якія ў родным склоне калісьці складалі дзіўнае выключэнне, як яны цяпер пішуцца? У § 75 пункт 3 «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» патрабуецца гэтыя назоўнікі ў родным склоне пісаць з канчаткам — **а**. Новы школьны падручнік М. Яўневіча і У. Андрэенкі абыходзіць іх маўчаннем. У асноўных правілах правапісу «Арфаграфічнага слоўніка» таксама гэтыя словы не прыводзяцца як прыклад, а ў самім слоўніку даюцца з канчаткам — **а**. А калі чытаем газеты і часопісы, мастацкую літаратуру, слухаем радыё, то сустракаем вельмі часта канчатак — **у**. Якое ж напісанне цяпер лічыць правільным? А мо можна і так і гэтак?

Асаблівую цяжкасць у апошні час складае правільнае напісанне канчаткаў назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду другога скланення з прыназоўнікам — **па**. У «Беларускай мове» М. Яўневіча і У. Андрэенкі чытаем, што прыназоўнік — **па** з месным склонам у беларускай мове адпавядае прыназоўніку — **па** з давальным склонам у рускай мове. У прадмове ж да «Арфаграфічнага слоўніка» М. П. Лобана і М. Р. Судніка мы прачыталі: «Неўнармаванасць ва ўжыванні прыназоўніка **«па» з давальным і месным** склонамі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду і з'яўленне ў пісьмовай практыцы **супрацьлеглых** напісанняў тыпу: па загаду і па загадзе, па кілаграму і па кілаграме, па плану і па плане, па сэнсу і па сэнсе, па знаёмству і па знаёмстве, па тэлебачанню і па тэлебачанні — выклікала неабходнасць увесці асобнае правіла аб склонавых канчатках назоўнікаў у такіх канструкцыях». І ўвялі. Прачытаўшы гэта, хочацца аўтарам задаць пытанне: якое ж тут «супрацьлеглае напісанне», калі тут розныя формы — формы меснага і давальнага склонаў? А «асобнае правіла» заключаецца ў тым, што канструкцыі з прыназоўнікам — **па** лічацца месным склонам, а маюць канчаткі давальнага склону.

Кожны вучань 5—6 класаў дасканала ведае, што група назоўнікаў другога скланення з асновай на **-к** і на **-г, -х**, якія не змякчаюц-

ПАДЗЕІ. ФАКТЫ. НАВІНЫ

## ПОЛЬСКІЯ СЛУХАЧЫ ВІТАЮЦЬ

Гастролі вядомага беларускага спевака народнага артыста рэспублікі Зіновія Бабія з поспехам прайшлі ў Польскай Народнай Рэспубліцы і ў братніх рэспубліках нашай краіны.

У чэрвені ён выступіў на оперных сцэнах і ў канцэртных залах Фрунзе і Душанбе. У Петразаводску З. Бабій выступіў у спектаклі Татарскага Дзяржаўнага тэатра оперы і балета «Кармэн», у партыі Хазэ.

У ліпені з мастацтвам саліста Беларускага тэатра оперы і балета ўпершыню пазнаёміліся аматары опернага мастацтва горада Уроцлава, на сцэне опернага тэатра якога З. Бабій выканаў партыю Каварадосі ў оперы Дж. Пучыні «Тоска». Польскія слухачы горача віталі госця з беларускай сталіцы.

Ю. ГРУШЭЦКІ.

## МІЛІЦЭЙСКІ, ЭСТРАДНЫ...

ДЗЕСЯЦЬ гадоў назад са сцэны клуба Упраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкома прагучалі словы вядучага: «Для вас іграе эстрадны аркестр мінскай міліцыі...».

Дзесяць гадоў існавання — больш тысячы канцэртаў! Нават мала дасведчаны ў працы музыкантаў-выканаўцаў разумее, што значыць тысяча канцэртаў.

З калектывам эстраднага аркестра клуба мінскай міліцыі знаёмы амаль на ўсіх буйных прадпрыемствах беларускай сталіцы.

У клубе вывешана карта Беларусі, размаляваная стрэлкамі-ўказальнікамі. Кароткімі—да падшэфных калгасаў, доўгімі—у гарады рэспублікі і за яе межы — Гомель, Жлобін, Мазыр, Брэст, Салігорск, Бабруйск, Маскву...

— Гэта месцы нашых гастрольных паездак, — тлумачыць начальнік клуба лейтэнант міліцыі М. Хаўранкоў. — У час паездак працавалі асабліва многа. Часам давалі па тры канцэрты ў дзень. А гэта нашы «трафеі» — сувеніры, пісьмы, граматы...

Іх сапраўды многа. Можна рабіць музей. І гэта сведчыць аб папулярнасці аркестра міліцыянераў-музыкантаў.

Мастацкі кіраўнік і дырыжор Леў Міхайлавіч Ляноўскі напісаў нямала песень, якія ўвайшлі ў рэпертуар: «Марш міліцыі», «Песня аб светафоры», «Балада пра капітана Уладзімірава», «Абцасікі» і інш.

У аркестры ў асноўным маладыя міліцыянеры. Адны прыйшлі раней — кантрабасіст І. Цыцоха, гітарыст Л. Каламацкі. Іншыя зусім нядаўна, як, напрыклад, Т. Канстанцінава.

Нельга сказаць, што ўсё у аркестры адразу было гладка. Былі пралікі і ў падборы рэпертуару, і ў выкананні. Былі пошукі новага...

Салісты эстраднага аркестра міліцыі спяваюць у студэнцкіх аўдыторыях, у заводскіх цэхах, на радыё і тэлебачанні, дапаўняюць прафесійных артыстаў у аб'яднаных канцэртах. Гэта аўтарытэт міліцыі. Гэта ўмацаванне культурных сувязяў з самадзейнымі і прафесійнымі калектывамі.

Вялікую і патрэбную работу праводзіць калектыў аркестра. І іграе па-майстэрску. Прыходзьце на канцэрт. Ён адбудзецца, нават «калі некага з іх з канцэрта пашлюць на заданне...», як пяецца ў адной з песень аркестра.

Б. МАЗАЛЕЎСКІ,
інструктар аддзела палітыка-выхавальнай работы Мінскага гарвыканкома.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Аркадзю Маўзону з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці маці.

## ЛЯСНАЯ ПЯЮХА



*Лясная пяюха — так называюць аднавяскоўцы 60-гадовую Веру Іванаўну Качаноўскую з вёскі Паўлінова, што на Піншчыне.*

*Мінулым летам я запісала з вуснаў калгасніцы 365 народных песень, 4 казкі, некалькі жартаў, загадкі.*

*Дасылаю ў рэдакцыю яе партрэт— маю замалёўку з альбома, — на жаль, фотаздымка ў Веры Іванаўны не аказалася.*

Н. ГАРАГЛЯД,
студэнтка Брэсцкага педінстытута.

З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

## «КОЖНЫ МЕСЯЦ... МОЖНА ЛІЧЫЦЬ ЗА ГОД...»

ГІСТОРЫЯ Віцебскага сімфанічнага аркестра неаддзельная ад культурнага жыцця Віцебска пачатку 20-х гадоў. Стваральнікам аркестра быў вядомы дырыжор Мікалай Малько. Многа сіл патраціў ён, каб прыцягнуць у малады калектыў мясцовых выканаўцаў-прафесіяналаў.

Свой першы канцэрт віцебскія артысты далі (як аматарскі калектыў) 8 лістапада 1918 года ў гонар першай гадавіны Вялікага Кастрычніка. І з таго часу кожны тыдзень аркестр выступаў з канцэртамі. За першы год свайго існавання ён даў 22 канцэрты. Яны былі прысвечаны рэвалюцыйным падзеям і святам, наладжваліся для масавых аўдыторый — чырвонаармейцаў, рабочых, дзяцей. «Прыемна было назіраць, — пісаў пра гэтыя дні М. Малько, — як зацікавіліся людзі аркестрам і пачалі наведваць нас, падпарадкоўваючыся ўнутранаму жаданню».

Хутка аматарскі калектыў быў рэарганізаваны ў прафесійны. На прэм'еры прысутнічаў прадстаўнік агітацыйна - інструктарскага поезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Ён ад імя Усерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэта вітаў віцебскіх аркестрантаў.

З многіх гарадоў краіны ў Віцебск былі запрошаны вопытныя музыканты, якія спрыялі павышэнню выканаўчага майстэрства аркестра. Не выпадкова ў адным з артыкулаў, змешчаным у часопісе «Искусство», які выдаваўся ў Віцебску, М. Малько пісаў, што ў складзе Віцебскага аркестра ёсць такія вялікія майстры, «якімі ганарыўся б любы першакласны аркестр Еўропы». Рэпертуар калектыву, паводле слоў таго ж Малько, складаўся з сапраўды лепшых узораў музычнага мастацтва. Калектыў працаваў над партытурамі, за якія раней па тэхнічных цяжкасцях не браліся.

За другі год існавання аркестр даў 103 канцэрты — лічба паводле тых часоў рэкордная. Ён выступаў у садзе імя Свярдлова, у памяшканні гарадскога тэатра, у Латышскім клубе, у Палацы працы, выязджаў у Гарадок, Невель, Смаленск. У рэпертуары віцьблян былі творы Чайкоўскага і Рымскага-Корсакава, Глазунова і Глінкі, Бетховена, Бізэ, Вагнера. У суправаджэнні аркестра выступалі вядомыя выканаўцы — Грыгаровіч, Шпільман, Мазжухін, Барэр.

З гісторыяй аркестра непарыўна звязана ўзнікненне Віцебскай народнай кансерваторыі. У сакавіку 1918 года агульны сход віцебскіх артыстаў накіраваў дакладную запіску на імя народнага камісара асветы А. Луначарскага, у якой гаварылася, што

## ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАГА БАЛЕТА

Сустрэча з гэтым чалавекам здзіўляе — здаецца, усё, што ён рабіў для беларускага прафесійнага балета, было зусім нядаўна. А час ляціць, і тэатру ўжо неўзабаве будзе 40 гадоў, і тым спектаклям, якія пазначаны на афішах Беларускага тэатра оперы і балета імем Льва Крамарэўскага, прысвячаюцца ўжо нататкі мемуарыстаў і даследаванні гісторыкаў мастацтва.

Цяпер яму 76 гадоў, але ён поўны энергіі і па-ранейшаму займаецца любімай справай: на грамадскіх асновах вядзе заняткі па рытмапластыцы ў Маскоўскім клубе імя Серафімовіча.

Біяграфія майго субяседніка вельмі складаная і цікавая, яна насычана багатым вопытам і ведамі, якія дапамагаюць яму зараз завяршыць работу над кнігай пад назвай «Індывідуальная тэхніка танцоўшчыка на аснове дынамічнай анатоміі». Тут Л. Крамарэўскаму дапамагае прафесійная дасведчанасць у галіне харэаграфіі, медыцыны і спорту. Кніга з'явіцца як бы вынікам яго вялікага і напружанага жыцця ў мастацтве.

У 1915 годзе Леў Міхайлавіч паступае ў Харкаўскі медыцынскі інстытут і адначасова пачынае работу ў драматычным тэатры пад кіраўніцтвам вядомага ў Расіі рэжысёра М. Сінельнікава. На сцэне ён выконваў вакальныя і танцавальныя нумары ў драматычных спектаклях. З чацвёртага курса пакідае інстытут і паступае ў балетную школу, створаную ў Харкаве былой салісткай Марыінскага тэатра Ю. Сядовай, з якой потым партнёр выконваў шэраг вядучых балетных партый у спектаклях «Лебядзінае возера», «Спячая прыгажуня» і іншых.

Значны этап яго творчай дзейнасці — работа ў музычным тэатры Данбаса ў якасці галоўнага балетмайстра. У 1931 годзе яго запрашаюць у Мінск для стварэння харэаграфічнай студыі.

У слоўніку-даведніку «Усё пра балет» сказана, што балетмайстар Л. Крамарэўскі да адкрыцця тэатра ў 1933 годзе падрыхтаваў першы балетны спектакль «Чырвоны мак»

# ПАСЛЯДОЎНАСЦЬ

ца, у месным склоне маюць канчатак **-у**. Напрыклад: гук — па гуку, смех — па смеху, мех — па мяху, сцяг —па сцягу. Калі ж **-г, -х,** змякчаюцца, то назоўнікі маюць канчатак **-е** ў месным склоне, напрыклад: парог — па парозе, паверх — па паверсе, бераг — па беразе, голас — па голасе. У К. Крапівы: «Па барадзе — казёл, па голасе — Казлоўскі».

А ў аналагічных канструкцыях з прыназоўнікам **—па** і назоўнікамі з іншай асновай канчатак **-у** павінен лічыцца адзнакай **давальнага** склону. І згадзіцца са сцвярджэннем, што канчатак **-у (-ю)** назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку з прыназоўнікам — **па** трэба лічыць варыянтам канчатка меснага склону, ніяк нельга. Нават школьнік гэтаму не паверыць, бо ён ведае добра адзін з відаў сувязі слоў у сказе—дапасаванне. А гэта такая сувязь слоў, пры якой залежнае слова павінна ставіцца ў тым жа ліку, родзе і **склоне,** што і асноўнае. І калі пісаць «па тэматычнаму плану, па іншаму пытанню, па камуністычнаму выхаванню», то адно з двух: ці гэтую форму не прызнаваць месным склонам, ці адмовіцца ад сувязі слоў у сказе. Канструкцыі лічэбнікаў і назоўнікаў з прыназоўнікам **—па,** займеннікаў і назоўнікаў з прыназоўнікам—**па** пацвярждаюць думку, што калі тут будзе канчатак **-у,** то не будзе меснага склону, **а** калі будзе месны склон, то не можа быць. — **у.** Напрыклад: «Блізкія па сваёй будове і па сваім характары да складаных слоў словы з часткай паў (поў)» (М. Лобан. Новае ў беларускім правапісе. «Літаратура і мастацтва», 1957, № 44). У «Граматыцы беларускай мовы», т. 1. (Марфалогія, выд. Акадэміі навук БССР, Мінск, 1962. Рэдактары акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук К. К. Атраховіч (Крапіва), кандыдат філалагічных навук М. Г. Булахаў) на старонцы 53 напісана: «У літаратурнай мове першай палавіны XX стагоддзя назоўнікі з цвёрдай асновай і асновай на **-г, -х** іншы раз ужываліся з канчаткам **-у,** якія у наш час у гэтай групе назоўнікаў **не з'яўляецца нормай».** Ніжэй прыведзены прыклады гэтых адхіленняў ад нормы: па аэрадрому, па маршруту, па закону, па паверху, па снягу. Але калі такія формы і ўжываліся часам — прыметнікі дапасоўваліся да назоўнікаў **у месным склоне.** У вершы П. Броўкі «Давайце рамоўкі наладзім» чытаем: «І мы, што змагаліся мужна, рупліва, засеем загоны таксама з'яднана і дружна, **па тым** жа адвечн**ым** закон**у**».

Трэба падкрэсліць, што ў 1962 годзе акадэмічнае выданне «Граматыкі беларускай мовы» т. 1 рэдагаваў акадэмік АН БССР К. К. Атраховіч (Крапіва) і «Арфаграфічны слоўнік» 1971 года— таксама ён. Чаму ж за дзевяць гадоў выключэнне стала асноўным правілам, а асноўнае правіла —новай рэформай? Значыць, пісаць «па паверсе, па снезе, па загадзе, па плане»—не новая рэформа, а старое правіла.

Аўтары слоўніка чамусьці ўвялі ўжыванне канчаткаў — **е** або **—і** і канчаткаў — **у (-ю)** назоўнікаў меснага склону. Атрымалася, што адны і тыя ж назоўнікі ў месным склоне з прыназоўнікам **—па** маюць канчатак — **у (ю),** а з другімі прыназоўнікамі ў тым жа месным склоне— **е** або — **і** (па выхаванн**ю**—у выхаванн**і**, па план**у** — у план**е**). Гэта новае правіла, яно пакуль што не запісана ні ў якой граматыцы. І нават з прыназоўнікам— **па** адзін і той жа назоўнік у месным склоне мае, паводле слоўніка, розныя канчаткі. Атрымліваецца на практыцы: правёў алоўкам па канверц**е**, але раздаў вучням па канверт**у**; карова дае малака па вядр**у**, але стукну палкаю па вядр**ы**; цыбуля вырасла па метру, але рысаваў крэйдаю па метр**ы**. Калі ў гэтым цяжка разабрацца «газетчыкам», работнікам друку і радыё, то вучню ў гэтым разабрацца не пад сілу. Ды і ці ёсць неабходнасць **у** такім размежаванні?

Калі ж не ісці насуперак граматыцы і палічыць, што канчатак **-у** (-ю) у большасці назоўнікаў другога скланення адзіночнага ліку з'яўляецца адзнакай давальнага склону (роднага), то не будзе ніякай блытаніны. Канструкцыі **з** прыназоўнікам **-па**, запазычаныя з рускай мовы, сведчаць у карысць канчатка **-у**, але і ў карысць давальнага склону, а не меснага. У рускай мове прыназоўнік **-па** ў самай вялікай большасці словазлучэнняў ужываецца з давальным склонам, а прыназоўнік **-па** з месным склонам ужываецца ў прастамоўнай і кніжнай лексіцы, і то рэдка. Назоўнікі множнага ліку другога скланення з прыназоўнікам **-па** маюць сапраўды канчаткі меснага склону, то чаму адзіночны лік выклікае нейкія сумненні? І каб лічыць склон месным, то патрэбна ўсё ж пісаць: па новым плане, па камуністычным выхаванні, па шостым паверсе, па гарадскім парку, па новым гаршку, па белым вядры і да т. п.

Яшчэ адно новае правіла сустрэлася ў слоўніку. Да гэтага часу мы лічылі «па шчырасці»—назоўнік з прыназоўнікам. На старонцы 199 «Арфаграфічнага слоўніка» мы чытаем: «па-шчырасці». Гэта, відаць, цяпер будзе лічыцца прыслоўем. То чаму тады не запісалі ў слоўнік і «па-сакрэце», «па-знаёмстве»? Беларуска-рускі слоўнік не дае такога прыслоўя. У «Арфаграфічным слоўніку» гэтых жа аўтараў, але выпуску 1961 года, «па шчырасці» пішацца асобна. Наватарства? Так, але пакуль што беспадстаўнае.

**М. ПЯТКЕВІЧ,**
ст. лабарант кафедры беларускай мовы Гродзенскага педінстытута імя Я. Купалы.

сход «прыняў на сябе ініцыятыву адкрыць у гэтым годзе народную кансерваторыю ў горадзе Віцебску». А. Луначарскі прыняў самы дзейны удзел у яе адкрыцці. З цікавасцю ён сачыў і за поспехамі Віцебскага сімфанічнага аркестра. А пасля таго, як была адноўлена ў Маскве і Петраградзе работа філармоніі і намячалася стварэнне іх у правінцыяльных гарадах, не без удзелу А. Луначарскага ў гэты спіс быў уключаны і Віцебск.

18 чэрвеня 1918 года Народны камісарыят асветы выдаў загад аб адкрыцці Віцебскай народнай кансерваторыі. Дырэктарам яе быў прызначаны М. Малько.

Мікалай Андрэевіч, па прафесіі настаўнік гісторыі, быў адным з вядомых дырыжораў свету. Як музыкант, М. Малько сфарміраваўся пад уплывам Рымскага - Корсакава, Лядава, Глазунова. Вучыўся ён і ў славутага дырыжора Фелікса Мотля. Некалькі гадоў М. Малько дырыжыраваў у Марыінскім тэатры.

Мікалай Малько стварыў сваю школу дырыжыравання. Ён першым паставіў пытанне пра спецыяльную дырыжорскую адукацыю. Пяру Мікалая Андрэевіча належаць многія кнігі і артыкулы. Чалавек вялікай эрудыцыі і незвычайнага таленту, М. Малько дырыжыраваў у многіх краінах амаль усіх кантынентаў. На жаль, пра віцебскі перыяд жыцця і творчасці гэтага выдатнага музыканта вядома зусім мала.

Моладзь Віцебска цікавілася музыкай. Пра гэта сведчыць той факт, што да пачатку заняткаў кансерваторыя атрымала каля 2 000 заяў. Да выкладчыцкай дзейнасці яе прыцягнулі многіх відных музыкантаў. Вучнямі кансерваторыі былі вядомыя потым спецыялісты: ленінградскі музыказнаўца Ю. Вайнкоп, маскоўскі кампазітар і дырыжор Г. Юдзін, прафесар Маскоўскай кансерваторыі А. Шарашэўскі, саліст Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра СССР Д. Рапапорт. Многія выхаванцы Віцебскай народнай кансерваторыі працавалі ў мясцовым сімфанічным аркестры.



Вось ён, віцебскі сімфанічны дваццатых гадоў.

Віцебскі сімфанічны аркестр адыграў немалую ролю ў справе музычнага выхавання насельніцтва, папулярызацыі класічнай музыкі. За чатыры гады ён даў 268 канцэртаў, якія праслухалі дзесяткі тысяч людзей. Кажучы словамі М. Малько, «дзейнасць Віцебскага сімфанічнага аркестра была такой бурнай і неўтаймоўнай, што кожны месяц па справядлівасці можна лічыць за год».

**Аркадзь ПАДЛІПСКІ.**

Віцебск.

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ ЗА РУБЯЖОМ

## У СТВАРАЛЬНІКАЎ ФІЛЬМА «НА КОЖНЫМ КІЛАМЕТРЫ»

Балгарскія гледачы горача палюбілі герояў фільма «На кожным кіламетры» (вядомага ў Савецкім Саюзе) і з нецярпеннем чакаюць новых сустрэч з імі. Гэтыя дні не за гарамі: дзевяць фільмаў новай серыі ўжо гатовы, а астатнія чатыры знаходзяцца ў працэсе вытворчасці. Новая серыя кінастужак будзе дэманстравацца на блакітным экране з верасня сёлетняга года. Стваральнікі фільмаў — сцэнарысты Павел Вежынаў, Яўгеній Канстанцінаў, Свабода Бычварова, Канстанцін Кюлюмаў, рэжысёры Нядзелча Чэрнеў, Любамір Шарланджыеў, аператар Эміль Вагенштайн, кампазітары Пётр Ступел, Атанас Баяджыеў былі ўдастоены Дзімітраўскай прэміі за папярэднюю серыю.

Балгарскае тэлебачанне ўжо паведаміла сваім гледачам, што трынаццаць фільмаў першай серыі будуць зноў паказаны сёлета ў жніўні. У адрозненне ад кінастужак папярэдняй серыі, новыя фільмы ўяўляюць сабой нармальныя поўнаметражныя карціны. Згодна с графікам работы, новую серыю фільмаў трэба было завяршыць у 1974 годзе, аднак калектыў аднадушна вырашыў скараціць гэты тэрмін на два гады. Закіпела напружаная работа. Здымкі вяліся сапраўды ледзь не на кожным кіламетры — у Маскве, Берліне, Вене, Парыжы, Дамаску, Заходнім Берліне, Сафіі, Русе, Бургасе, Асенаўградзе, Плоўдзіве... Галоўныя героі фільма — маёр Дзяянаў, капітан Бомбаў і, зразумела, хітры, небяспечны і непрымірымы вораг рэвалюцыі Вялінскі добра знаёмы гледачам. У новай серыі здымаліся таксама «новыя» акцёры: народныя артысты Балгарыі Стэфан Гецаў, Георгій Калаянчаў, Андрэй Чапразаў, Асен Міланаў, заслужаныя артысты Балгарыі Нявена Каканава, Багаміл Сімяонаў, Коста Цонеў, а таксама трое венгерскіх, двое сірыйскіх і адзін савецкі акцёр.

Невядома, якім чынам прыхільнікі фільма «На кожным кіламетры» даведваюцца аб прыездзе ў той або іншы горад здымачнага калектыву. Яны гадзінамі прастойваюць ля гасцініц у чаканні сваіх любімцаў. Іншы раз артыстаў, выканаўцаў любімых вобразаў, з кветкамі сустракалі цэлыя класы і нават школы. Усё гэта, канечне, вельмі прыемна. Але як быць з графікам? Не раз здымачны калектыў спрабаваў тайна змяніць адрас гасцініцы, аднак контрразведка «працаўніка» заўсёды працавала бездакорна.

«Сафія-прэс».

Р. Гліэра і потым паставіў балет «Канёк-гарбунок» Ц. Пуні. Акрамя гэтага, ён быў харэографам у оперных спектаклях «Кармэн» і «Князь Ігар».

У створанай Л. Крамарэўскім харэаграфічнай студыі набывалі веды і майстэрства С. Дрэчын, Г. Шчолкіна, В. Бурэйка, Я. Вяпрынскі, Н. Гурвіч, Н. Фінская, К. Пекур, Т. Новікава, К. Калітоўская, М. Акуліч, І. Вярбіцкі і многія іншыя. У трупу ўліліся старэйшыя беларускія артысткі балета Ю. Хіраска і Т. Узунава, якія пачалі сваю дзейнасць яшчэ ў Першым БДТ пад кіраўніцтвам першага беларускага балетмайстра К. Алексютовіча. З тэхнікума сцэнічнага мастацтва да Л. Крамарэўскага перайшлі Я. Белановіч, Р. Карчан, А. Петрашкевіч, Р. Гімпелева, В. Залівака.

Што ж было галоўным і што ў методыцы падрыхтоўкі танцоўшчыкаў забяспечыла поспех самых першых прафесійных балетных спектакляў на беларускай сцэне? Грамадскасць адразу адчула, што і «Чырвоны мак», і «Канёк-гарбунок» — пастаноўкі, якія ніяк нельга назваць «вучнёўскімі», што нараджаецца сталы калектыў, здольны працаваць па вышэйшых харэаграфічных крытэрыях. А дасягалася гэта на ўроках сапраўднага майстра сваёй справы, эрудыта і віртуоза. Ведаючы дасканала анатомію чалавека і яго магчымасці, Л. Крамарэўскі ставіў перад вучнямі задачы хоць складаныя, але даступныя для выканання.

Крамарэўскі замест сямі-васьмігадовых дзяцей, якія звычайна паступаюць на вучобу ў харэаграфічнае вучылішча, меў тады справу з падлеткамі, у якіх цела ўжо не было такім гнуткім і рухавым. Многія скептыкі наогул не верылі, што з іх можна падрыхтаваць артыстаў балета. Акрамя таго, у студыі не было элементарных умоў, не было залы для заняткаў, якая цяпер ёсць у любым самадзейным харэаграфічным калектыве. І вялікая заслуга Л. Крамарэўскага ў тым, што ён абуджаў у вучняў не толькі прагу да ведаў і тэхнікі харэаграфіі, але і вучыў не баяцца цяжкасцяў, выхоўваў у іх працавітасць і пачуццё адказнасці за кожны выхад на сцэну. Ён аб'ядноўваў калектыў, выпрацоўваў этыку ўзаемаадносін.

«Чырвоны мак» 1933 года на беларускай сцэне — спектакль пра нацыянальна-вызваленчую барацьбу супраць іншаземных каланізатараў, і гэта было вельмі сугучна часу, калі савецкае мастацтва асэнсоўвала падзеі нядаўняй гісторыі народаў былой царскай Расіі. Настаўнік і рэжысёр Л. Крамарэўскі вучыў сваіх выхаванцаў не толькі «танцаваць» партыі, а і ствараць вобразы, якія пераканальна і па-мастацку ярка раскрывалі ідэйна-драматургічную задуму кампазітара Р. Гліэра.

І яшчэ пра такі далікатны факт. Галоўную партыю ў «Чырвоным маку» выконвала жонка Л. Крамарэўскага. Але адчуўшы ў маладой балерыне А. Нікалаевай артыстку больш яркага тэмпераменту і сцэнічных магчымасцяў, ён даручыў танцаваць Тао Хоа ёй. Такое робіць далёка не кожны пастаноўшчык. Дарэчы, і цяпер А. Нікалаева з удзячнасцю ўспамінае пра тыя ўмовы, якія былі створаны для яе паспяховай працы над партыяй.

У пастаноўцы «Канька-гарбунка» балетмайстар імкнуўся захаваць і перадаць усю шчодрасць казачнага сюжэта і аптымістычны змест літаратурнай першакрыніцы — твора П. Яршова. Гледачоў, асабліва моладзь, захапляла багацце і хараство танцавальнай палітры гэтага спектакля, паглыбленне салістаў і кардэбалета ў стыхію маляўнічых рухаў і сцэн. Здзіўляла і радавала, што выхаваны Л. Крамарэўскім калектыў за кароткі тэрмін авалодаў разнастайнасцю танцавальных форм. І адразу было зразумела тое запаветнае «пачуццё энсамбля», без якога не можа быць сапраўднага творчага ўздыму ў харэаграфічным спектаклі.

...Тры гады — многа гэта ці мала? Для тэатральнага дзеяча — многа, калі ён здолеў пакінуць выразны мастакоўскі след, калі яго пастаноўкі засталіся пэўным этапам у станаўленні прафесійнага майстэрства трупы.

Ён цяпер схіляецца над рукапісам. Кніга неўзабаве будзе завершана. Трэба спадзявацца, што ў ёй адаб'ецца нешта і з вопыту работы Л. Крамарэўскага на беларускай сцэне.

**А. ГАНТМАН.**

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

*ЛЕГКІМ ШТРЫХОМ*



Васіль Вітка.



Яўген Зайцаў.

Сяброўскія шаржы З. ПАЎЛОЎСКАГА.

# ЯК СКЛАСЦІ ЗБОРНІК ВЕРШАЎ

ПАРАДЫ АЎДЗЕЯ САМАСЕЯ ПАЭТАМ-ПАЧАТКОЎЦАМ

САМІ ВЕДАЕЦЕ, рана ці позна, але гэты момант прыходзіць... Сябры кажуць: пара, брат... Крытыка паказвае, што час наспеў... І, сапраўды, пара гаспадарчым вокам акінуць шырокія газетна-часопісныя нівы, на якіх так шчодра ўзышлі вершапасевы.

Першае, вядома, прыдумаць назву кніжцы. Яна павінна быць абавязкова няпростая і нават крыху мудрагелістая. Напрыклад, «Чатыры сагі пра бурундука» або «Касмарэпія», або «Жнівень-72»... Гэта не мае значэння, што ў вас няма нічога ні пра бурундукоў, ні пра космас — бо ўсё, што вы ўклалі ў назву (адукаваны чытач гэта зразумее!), знаходзіцца, так сказаць, унутры слова, унутры сэнсу. Калі ж вы не можаце прыдумаць (мы надта добра разумеем стан творчай дэпрэсіі) нічога «глыбока-ўнутранага», пастаўце проста і надзейна — «Лірыка».

Далей, як вядома, ідзе анатацыя. Праўда, гэта клопат выдавецтва, а не аўтара. Але аўтар мае дачыненне да гэтай справы сваёй біяграфіяй... Добра, калі ў анатацыі будзе адзначана, што аўтар хадзіў на кітабойным судне, быў фельчарам у сельскай бальніцы, займаўся статыстыкай і авіямадэляваннем. Гэта падмацуе ўпэўненасць чытача ў якасці вершаў.

Першы верш... Ён павінен быць невялікі па аб'ёме, але глыбокі па думцы.

Верш-праграма.

Лепш — максімум.

Перш-наперш, абавязкова трэба заявіць аб сваёй прыналежнасці да ўсіх спраў усяго чалавецтва— ад індыйскіх браміна ў да аўстралійскіх абарыгенаў, ад ракі Арынока да востраваЛесбаса. Тут жа трэба сказаць аб сваёй непрымірымасці да асобных недахопаў, якія яшчэ маюць месца.

Ну, потым сказаць пра экалогію, забрудненне навакольнага асяроддзя, пра «зялёнага сябра», не забыць закрануць насычаную ў грамадзянскім і літаратурным сэнсе праблему білетаў у гарадскім грамадскім транспарце, упамянуць аб «простай і святой ісціне», якая сцвярджае, што жыццё чалавечае кароткае, і ў цэлым верш-праграму можна лічыць завершаным.

Наступны верш — пра вытокі. Пра вашы аўтарскія вытокі. Ну, памятаеце, у вас жа ёсць такое? Стомлены ад гарадскіх клопатаў, вы ездзеце на сваю прарадзіму, у гняздоўе—у сваю вёску. Тут, як водзіцца, направа — лес, налева — рака. За ракой абавязкова павінны быць буслы. Без іх нельга... Тут жа дзед Міхей, які памятае Напалеона. Цётка Дар'я з даёнкай (брынкае даёнка?)... Мілае басаногае дзяцінства.

І ўсё. Коратка. Нічога лішняга. Чытач сам усё зразумее.

Далей — асноўны блок вершаў. Вершаў-роздумаў. Роздумы павінны быць салідныя. Без усялякіх там дробязяў. Думаць толькі глабальна! Да прыкладу, заўважылі вы муху на сваім акне і тут жа ў вершах суадносіце яе лёс з лёсам гімалайскага мядзведзя. Багатая тэма... Нюансы, адценні. Галоўнае — як мага больш самапаглыблення. Ні ў якім выпадку не схіляцца да паўсядзённасці. У спецыяльным вершы абавязкова паскардзьцеся на дваццаты век — век хуткасцяў, нейлона, перлона, штармавы і навальнічны... Вам-то асабіста век не перашкаджае, наадварот—камфорт... Але ўжо так прынята: крыху высакароднай стомленасці...

Адбірайце пабольш тых вершаў, дзе часцей сустракаецца ваша Я, дзе вы самаяўляецеся ў вечных пытаннях. Як мага больш інтэлектуальнага напружання, і ў вас з'явяцца магчымасці трапіць на адну паліцу з патэнтаванымі прадстаўнікамі філасофскай лірыкі.

Але не захапляйцеся... Не адрывайцеся, так сказаць, ад глебы... Гэта небяспечна. Каб пазбегнуць папрокаў у адрыве, канчаць зборнік лепш за ўсё вершамі аб тым, што вы з неспакойнага племя, аб лютым ветры, які б'е ў вашы грудзі, аб вышынях, на якія вы абавязкова ўзыдзеце, аб далёкіх дарогах, па якіх, мы ўсе ўпэўнены, вам ісці, ехаць, ляцець...

М. НАВІЦКІ

# ШЛЯХ У ЖЫЦЦЁ

(ПА-АМЕРЫКАНСКУ)

**— Што, вас трасе! Шкада мне, тычэр, вельмі,**
**Шаноўная настаўніца мая,**
**Што ў вашу сумачку (не стаўце гэтак бельмы!)**
**Сягоння зазірнуць мяркую я.**
**Я ведаю, нялёгка вам згадзіцца,**
**І дзёрзкім вам учынак здасца мой,**
**Бо хто ж дзе чуў, што ў класнай кіраўніцы**
**Захапаў рыдыкюль яе скулбой!**
**Але ратунку заклікаць не раю,**
**Я ж, самі ведаеце, хвацкі быў юнак,**
**Умею ўдарыць зверху, знізу, з краю.**
**Няўжо вы хочаце спазнаць цяжкі кулак!**
**Дзве сотні доляраў, хіба гэта багацце!**
**Нікчэмны ўлоў для гэтакіх, як мы.**
**Дазвольце, тычэр, з вамі развітацца,**
**Каб выспацца і вы, і я змаглі.**
**Не шліце скаргаў да майго старога,**
**У Індакітаі крадзе мой джы-ай.**
**Ён, піша, горды за свайго «малога».**
**Дабранач, тычэр! Добрых сноў! Гуд бай!**

Георгій ЮРЧАНКА

# У ГЛЫБІНІ ВІДАВОЧНАСЦЯЎ

*Міхась ЯРОШ*

Літаратура ствараецца для чытачоў. Гэта адно. Думаецца, з такой пастаноўкай пытання без усялякіх акалічнасцяў пагодзіцца самы, так сказаць, падкаваны крытык. Другое — усяго не пералічыш! — глыбінная сутнасць твора, яго, калі можна так назваць, функцыянальны чыннік у адносінах да мастацкіх заканамернасцяў. Але вырашэнне пастаўленых праблемнасцяў толькі тады набывае характар безумоўнасцяў, калі на яго моцна паўплывала бясспрэчнасць арыгінальнасцяў. У такіх выпадках нават наяўнасць, як бы гэта сказаць, пагрэшнасцяў натуральна адцягвае завастрэнне крытычнасцяў і дапамагае твору шырокай плыннію ўліцца ў паток чытальнасцяў. Не рызыкуючы знізіцца да гіпатэтычнасцяў, мы тым не менш з поўнай сумай пераканаўчасцяў будзем гаварыць аб сіле эстэтычных дзейнасцяў у лепшым сэнсе гэтых словаў. На высокай ноце адказнасцяў мы, натуральна, не толькі адзначым, але — заўважце! — і акрэслім здаровы, прамаімкнёны сэнс мэтанакіраванасцяў і жыццёвых верагоднасцяў там, дзе іншыя гэтага ні вызначаць, ні акрэсліваць не збіраюцца. Узятыя з мітуслівага побыту паўсядзённасцяў, творы гэтакіх угрунтаванасцяў даюць удзячную глебу для назіральнасцяў. У залежнасці ад колькасцяў яны дазваляюць напамінкаваць пра стосы манаграфічнасцяў і паказваюць, дзе паўплывала традыцыя, а дзе лёг адбітак непрыкрытых наватарстваў. Арганічнае суіснаванне гэтакіх супярэчнасцяў пры строгай і нястомнай шукальнай увазе дазваляе на высокай ноце аб'ектываваць у тым накірунку, які ўрэшце-рэшт вымагаецца ўсёй статыкай глыбінных суіснасцяў.

Такім чынам, натуральнае судакрананне нястомнай даследнасці з галоўнымі аспектамі творчых выpaxункаў, мабыць як ніколі, высвятляе ўсю ірдзень прывабнасцяў абстраганага ўразумення відавочнасцяў.

*У АНТЫСВЕЦЕ*



З замежнага гумару.

Веслаў БРУДЗІНСКІ

# ВЫДУМКІ

□ *П'есу аб незалежнасці пагладай ставілі пры замкнёных дзвярах, каб не дэмаралізаваць крытыкаў.*

□ *Ад «ніхто мяне не разумее»» да «ўсе мяне разумеюць» — падвойнае дно трагедыі мастака.*

□ *Жыць у цікавы час трэба так, каб без цябе ён быў крышку менш цікавы.*

□ *— Не люблю глядзець на сябе з адлегласці, — сказаў ён, — я тады здаюся сабе занадта вялікі.*

□ *З гордасцю першаадкрывальніка ідзе сваёй уласнай дарогай, ні на хвіліну не задумваючыся, чаму яна такая ўезджаная.*

□ *Нават калі прызнае сваю памылку, то ацэньвае яе з пазіцыі чалавека, які ніколі не памыляецца.*

□ *Помслівыя ворагі замаўчалі яго апошнія творы, але захопленыя прыхільнікі выставілі іх на публічнае пасмешышча.*

□ *Ці маеш алібі на той перыяд, калі ты меў рацыю?*

□ *Праблема кожнага працаўніка мастацтва: ці ўдасца дасягнуць майстэрства да таго, як усім абрыднеш.*

□ *Цяжка быць арганізатарам глядача ў тэатры, дзе не ўзнімаюць заслоны.*

□ *Не акружай сябе толькі такімі, што слепа цябе слухаюцца, — ніхто не паверыць, калі табе спатрэбіцца зваліць віну на іх непаслушэнства.*

□ *Добра, — сказаў ён, — я пагаджуся з лёсам, калі ён зробіць першы крок.*

□ *Твае старыя заслугі больш відочны, калі ты не засланяеш іх новымі.*

Пераклад з польскай.


**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 01925

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 32-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.